ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

8 САКАВІКА 1996 г. № 10 (3834) Кошт 2 500 руб.


## ДЫЯМЕНТЫ НАШАЙ КЛАСІКІ

***Успаміны пра Кандрата Крапіву і развагі пра яго творчасць да 100-годдзя з дня нараджэння.***


**3, 6—7, 16**


## ЖАНЧЫНЫ, ЖАНЧЫНЫ...

***Валянціна ПАЛЕВІКОВА: "Толькі ў прамысловасці, будаўніцтве і на транспарце па становішчы на 31 снежня 1992 года больш як 130 тысяч жанчын працавала ва ўмовах, што не адпавядаюць стандартам бяспекі працы (або 39 працэнтаў ад усіх працуючых у гэтых умовах).***


**5, 12**


## "ЖЫВУ НА СВЕЦЕ, ЯК УМЕЮ..."

***Новыя вершы Ніны МАЕЎСКАЙ***


**8**


## ЖОНКА ЛОЎЧАГА,

***або Апавяданне пра муку ад жаночай красы Генрыха ДАЛІДОВІЧА***


**8—9**






# МУСЯЦЬ ІСЦІ ЛЕПШЫЯ

Каб даць палёгку будучым тэатральным даследчыкам, паведамляю, што творчае жыццё актрысы Вольгі Лужкоўскай пакуль усё яшчэ — на нашых вачах. На сцэне тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі вабілі публіку ролі каралевы Боны і Пані ("Барбара Радзівіл" ды "Паваліўся нехта") у яе выкананні."Паваліўся нехта" быў ці не самым касавым спектаклем "Вольнае сцэны". Дэбют у ролі Ганны, жонкі Вітаўта (частка трылогіі "Пастка для зубра") рэжысёр-пастаноўшчык Віктар Шавялевіч назваў адметным. Мяне ж да ўсяго паланіла пародыя на вядучую перадачы "Тэатр у фатэлі", бо пакуль што на тэлебачанні менавіта я маю гонар яе весці...

Спытала ў Вольгі, маўляў, ты вучылася ў спецыялізаванай тэатральнай школе, напэўна, з маленства марыла быць актрысай? "Касманаўтам, — адказала яна. — Пэўна — трэцяй у свеце жанчынай-касманаўтам пасля Церашковай ды Савіцкай". І дадала, што, на яе думку, калі дзіця марыць пра космас, а не пра дырэктарства ў краме, значыць, з


*(Працяг на стар. 10)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***На календары — вясна, сакавік. На двары — зіма, люты. Снег пад нагамі, снег сыплецца з неба. Прырода нібы чакае ўказа прэзідэнта аб пачатку вясны, аб адпраўцы дзеда Мароза на дэмбель. А ўказа ўсё няма і няма. Бо вясна чакаецца бурнай, паводкавай. Рэчкі могуць выйсці з берагоў, а народ — на плошчы; бо ў калгасаў няма паліва для пачатку сяўбы, а ў рабочых — грошай, каб пракарміць сям'ю... Але вясна ўсё ж прыйдзе на Беларусь — незалежна ад чыіхсьці ўказаў — прыйдзе, і ніхто ў гэтым не сумняваецца.***

### ТЛУМАЧЭННЕ ТЫДНЯ

На сустрэчы прэзідэнта з журналістамі пасля візіту ў Маскву адзін карэспандэнт спытаў у А. Лукашэнкі, ці можна верыць чуткам, што быццам бы адначасова з выбарамі прэзідэнта ў Расіі на Беларусі адбудзецца рэферэндум аб інтэграцыі Беларусі і Расіі. "Ніякіх рэферэндумаў я праводзіць не буду", — адказаў прэзідэнт. Чаму? Ды таму, аказваецца, што пасля леташняга рэферэндуму ў гэтым няма патрэбы: "колькі можна пытацца ў народа пра адно і тое ж". А патрэба між тым ёсць. Бо на мінулым рэферэндуме ў народа пыталі згоды на эканамічную інтэграцыю з Расіяй. А супраць гэтага не выступае нават БНФ. Цяпер жа размова цалкам сур'ёзна вядзецца пра палітычную і ваенную інтэграцыю. А ці даваў на тое згоду падмануты народ? І ці дасць ён дазвол адпраўляць сваіх дзяцей у Чачню?

### НАМЕР ТЫДНЯ

У красавіку — маі выдача пачнецца грамадзянам Беларусі пашпартоў з новай-старой сімволікай. Пакуль жа на Беларусі "ходзяць" пашпарты СССР і каля ста тысяч пашпартоў з "Пагоняй", якія паспелі атрымаць грамадзяне незалежнай Беларусі.

### ПЫТАННІ ТЫДНЯ

"Да якой мяжы магчыма інтэграцыя з Расіяй?", "Ці застанецца ў бліжэйшым часе Беларусь на карце свету як незалежная дзяржава?". Пытанні гэтыя паўсталі пасля візіту прэзідэнта Беларусі ў Маскву. Аглядальнік "Звязды" В. Жданко, адказваючы на іх, прыходзіць да высновы: як сведчыць гісторыя, "інтэграцыйныя дэкларацыі часцей застаюцца на паперы, чым увасабляюцца ў рэальнае жыццё". І доказвае гэта на прыкладах даўняе і блізкае гісторыі ("Звязда", 2 сакавіка г.г.). Пагаджаемся, але дададзім нерваў "единением", як раней "зонай", нам патрэплюць нямала, перш чым зразумеюць, усвядомяць гэта "вярхі".

### УСПЛЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У Маскве прэзідэнт сустрэўся і з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Расіі. На тэлеэкране мільгала шмат знаёмых асоб, сярод якіх выдзяляўся твар былога першага сакратара ЦК КПБ, ганаровага "чарнобыльца"-льготніка М. Слюнькова. Пазнаў яго і А. Лукашэнка і сказаў: "Мы поставили на место националистов и коммунистов. Так что приезжайте, вам всегда будут рады". Пасля гэтых слоў, паведамляе "Комсомольская правда", "Николай Никитич явно воспрял духом". Але — дарэмна, мусіць, бо памяць у нашага народа не такая кароткая, як думае ён і прэзідэнт. Тым больш — дзесяцігоддзе Чарнобыля не за гарамі, і Радзіма павінна прыгадаць сваіх "герояў" пайменна.

### АРГКАМІТЭТ ТЫДНЯ

25 сакавіка, па традыцыі, будуць адзначацца чарговыя ўгодкі абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. З гэтай нагоды створаны грамадскі камітэт па святкаванні. Узначаліў яго Васіль Быкаў, а ў склад аргкамітэта ўвайшлі такія вядомыя палітыкі і дзеячы культуры, як Станіслаў Багданкевіч, Аляксандр Дабравольскі, Генадзь Карпенка, Рыгор Барадулін, Зянон Пазняк ды іншыя. Цэнтральнай падзеяй свята стане шэсце ад пляца Незалежнасці да парку Янкі Купалы, якое адбудзецца ў нядзелю, 24 сакавіка.

### ХВАЛЯВАННЕ ТЫДНЯ

Банкіры ў трансе: прэзідэнт А. Лукашэнка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі працоўных калектываў напярэдадні ад'езду ў Маскву заявіў, што ў хуткім часе будуць "адзяржаўлены шэсць камерцыйных банкаў: "Пріорбанк", "Белбізнесбанк", "Акцыянерны банк "Беларусбанк", "Белзнешэканомбанк", "Белпрамбудбанк" і "Белаграпромбанк". Якім чынам гэта будзе зроблена — прэзідэнт не сказаў. Падазраецца, што рэвалюцыйным — нацыяналізацыяй. Такім чынам будзе расчышчацца пляцоўка для дзейнасці расійскіх банкаў, першыя з якіх ужо "афіліяліліся" на Беларусі.

### ЧУТКА ТЫДНЯ

Паводле паведамлення "Свабоды" (5 сакавіка г.г.), Кабінет Міністраў Беларусі прыняў пастанову N 144 "Аб упарадкаванні паліграфічнай дзейнасці". Згодна ёй, на Беларусі ўводзіцца патрабаванне аб неабходнасці атрымання ад уладаў дазволу на паліграфічную дзейнасць. Прычым не тлумачыцца, што пад гэтым разумеецца. А значыць, у лік "паліграфсродкаў" можна залічыць нават звычайную пішучую машынку, факс, ксеракс і г.д. Юрыдычныя асобы, якія займаюцца друкаваннем, павінны будуць да 1 красавіка атрымаць адпаведную ліцэнзію. Такім чынам, усе планы наконт стварэння на Беларусі незалежных ад дзяржавы і прэзідэнта друкарняў могуць быць знішчаны ў зародку.

### АБСУРД ТЫДНЯ

Гомельскае прадпрыемства "Ратон" атрымала з Амерыкі паведамленне, што яму прысуджана міжнародная ўзнагарода "Факел Бірмінгама" — за выжыванне і развіццё ў цяжкіх умовах сацыяльна-эканамічнага крызісу. Але вось бяда — атрымаць узнагароду прадпрыемства не зможа, бо на рахунку ў яго няма рублёў, а тым больш — долараў, каб адправіць у Амерыку па прыз сваіх прадстаўнікоў. Амерыканцы яўна не ведалі, што "загадкавая славянская душа" можа выжываць і развівацца "без капейкі за душой".

### СІМВОЛІКА ТЫДНЯ

Конкурс на лепшы варыянт герба, сцяга і гімна Чалябінскай вобласці абвясціла абласная Дума — паведамілі "Известия". З усіх прапанаваных праектаў на грамадскае абмеркаванне будзе вынесена ажно восем (!) варыянтаў... Пакуль атрыбутыка, а ў перспектыве — незалежнасць? Ці не ад Беларусі...



З нагоды

## КРАІНА ДЛЯ "КНІГІ ГІНЭСА"

Шэраг з'яў самага рознага кшталту робіць Беларусь краінай унікальнай, непаўторнай. Проста не краіна, а набытак для "Кнігі Гінэса". Песня "Я другой такой страны не знаю..." па справядлівасці можа на дадзеным адрэзку гісторыі прэтэндаваць на статус гімна РБ.

На працу і з працы мы ездзім у самых перапоўненых у свеце аўтобусах. Пры самых сусветных цэнах на рэчы і прадукты першай неабходнасці (як і мае быць пры капіталізме) — у нас самыя "савецкія" заробкі (як пры сацыялізме). У нас самая вялікая колькасць манументальных знакаў эпохі таталітарызму (бронзавыя, гранітныя "леніны", "дзяржынскія", "калініны", "суворавы"...) на душу насельніцтва. У нас адбыўся самы унікальны (непадуладны анiякаму разумнаму сэнсу) у свеце рэферэндум. І галоўнае: Беларусь — адзіная ў свеце краіна, дзе барацьба з уласнай дзяржаўнасцю з'яў ляецца... дзяржаўнай палітыкай.

"Рублёвая зона", "калектыўная бяспека", "адзіная мытная прастора" і апошнія дакументы пра нейкі "Саюз, якога яшчэ не бачыў свет", народжаны ініцыятывай Лукашэнкі і падпісаны нядаўна ў Маскве — гэта этапы ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці.

Стыль стасункаў сп. Лукашэнкі з Масквою выклікае ў патрыётаў Беларусі пачуццё абражанага нацыянальнага гонару. Каб "сябраваць дамамі", зусім неабавязкова аддаваць суседу сваю жонку. Між тым, адбываецца нешта падобнае. Пэўныя палітычныя сілы ў Расіі сённяшнія расійска-беларускія стасункі трактуюць як абсалютна натуральныя. Мауляў, інакш і быць не павінна. Але дазволю сабе пэўныя гістарычныя паралелі. Злучаныя Штаты не адно дзесяцігоддзе падтрымлівалі ў Лацінскай Амерыцы не надта папулярныя, а іншы раз і ненавісныя народам рэжымы. У выніку нянавісць да мясцовага дыктатара абарочвалася нянавісцю да Злучаных Штатаў. І сёння лацінаамерыканскі нацыяналізм — досыць сур'ёзная праблема для Дзярждэпартамента ЗША.

Наколькі моцнай будзе антымаскоўская накіраванасць "беларускага нацыяналізму", залежыць ад таго, наколькі моцную падтрымку атрымае сённяшні рэжым збоку.

Зрэшты, калі-небудзь беларусам надакучыць жыць у краіне з "Кнігі Гінэса", яны захочуць жыць у звычайнай краіне — такой, як Швейцарыя альбо Германія.

Хутчэй бы...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## СУМЕСНЫ КЛОПАТ



"Пісьменнік і музеі" — так можна коратка абазначыць тэму чарговага пасяджэння Рады СП, якая на гэты раз адбылася не "дома", а ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Дырэктар самога музея і Аб'яднання літаратурных музеяў Л. Хадкевіч расказаў прысутным пра мэту і гісторыю аб'яднання (у ім 5 літаратурных музеяў і 9 філіялаў), а таксама аб прыярытэтных кірунках дзейнасці. Мы даведаліся, што на балансе аб'яднання амаль адрэстаўраваны палац Агінскага ў Залессі, будынак касцёла ў Беніцы і іншыя аб'екты гістарычнага значэння. У планах — стварэнне музея К. Буйлы ў Вішневе і Караткевіча ў Оршы, літаратурнага музея Валожыншчыны.

Намеснік дырэктара музея Т. Голуб падкрэсліла: "Мы робім адну справу, толькі ў розных установах" і заклікала аб'яднаць намаганні па ўшанаванні памяці майстроў слова. Яна ж запынілася і на музейных праблемах: гэта недахоп кваліфікаваных кадраў і навуковых прац, марудная папаўненне фондаў і інш.

Выступленні і пытанні сяброў Рады тычыліся, як правіла, канкрэтных пазіцый — мясцовых ці школьных музеяў, якім трэба было б дамапагчы. Сярод іх музеі Макаёнка ў Жураўічах, Лынькова ў Ліпенічах, літаратурны ў Магілёўскім педінстытуце. Былі прапановы наконт музеяў Цёткі (да 120-годдзя), Мележа, Крапівы, паэтаў-святароў Ізі Харыка, літаратурнага музея Гомельшчыны.

Паднімалася пытанне добраўпарадкавання магіл Дуніна-Марцінкевіча, Дзяргая, Труса, мемарыяльнай кватэры Караткевіча.

І. Шамякін, які найбольш актыўна ўдзельнічаў у гаворцы, напомніў пра пісьменніцкія дачы на беразе Нарачы — Куляшова, Лынькова, Танка, — якія маглі б стаць культурным асяродкам курортнай зоны. Ён жа заклікаў супрацоўнікаў музеяў у сваёй рабоце набліжацца да сучаснасці, завязваць сувязі з абласным кіраўніцтвам.

В. Рагойша адзначыў актуальнасць гэтай размовы для будучыні, бо тое-сёе робіцца па розных лініях, але няма ўзгодненасці, не хапае падчас кампетэнтнасці ў падыходах. Напрыклад, выдаць сёлета поўны збор твораў М. Танка аніяк немагчыма. Раней па такіх пытаннях кансультаваліся з інстытутам літаратуры.

А. Мальдзіс гаварыў пра неабходнасць стварэння адпаведнай дзяржаўнай праграмы і мемарыяльна-гістарычнай камісіі.

А. Махнач своечасова нагадаў аб распрацаванай на 16 ведамстваў і падпісанай Ельцыным праграмы духоўнага адраджэння Расіі. У нас таксама ёсць што адраджаць, быў бы дзяржаўны клопат пра гэта.

З усяго сказанага на сумесным пасяджэнні і з прынятай пастановы вынікала, што ўшанаванне нашай літаратурнай спадчыны і самім творцам, і музейшчыкам уяўляецца важным сродкам патрыятычнага і эстэтычнага выхавання моладзі, далучэння яе да нацыянальнай культуры.

**Г. К.**

## У РАКЕТЧЫКАЎ — ЯК ДОМА

Мы ўжо расказвалі аб працы камісіі па ваенна-шэфскай рабоце Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пастаянную ініцыятыву праяўляе тут Я. Каршукоў. Нямала мерапрыемстваў плануе камісія і на бліжэйшы час. Адно з апошніх прайшло ў мінулы чацвер, 22 лютага, напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны.

Тым днём пісьменніцкі "дэсант" у складзе Алеся Бажко, Алеся Махнача, Алеся Савіцкага, Георгія Шыловіча, Браніслава Спрынчана, Казіміра Камейшы, Уладзіміра Паўлава, Уладзіміра Скарынкіна, Алеся Марціновіча на чале з Яўгенам Каршуковым накіраваўся да тых, хто ахоўвае мірнае неба над нашым стольным Мінскам, — салдат і афіцэраў войск супрацьпаветранай абароны.

Літаратары падзяліліся на дзве групы і адпаведна пабывалі ў двух ракетных дывізіёнах. Той, якім камандуе падпалкоўнік В. Някрасаў, у сістэме СПА лічыцца лепшым. Сам камандзір родам з Праслаўшчыны (Расія), але звязаў свой лёс з беларускай зямлёй, ды і жанаты на беларусцы. У дывізіёне служаць 30 салдат — нашых землякоў. Пераважная большасць афіцэраў таксама родам з Беларусі. Дарэчы, у пакоі адпачынку шматлікія стэнды аформлены па-беларуску. Па-беларуску напісаны і тэкст прысягі.

А гаворка з салдатамі і афіцэрамі адбылася шчырая і зацікаўленая. І бакі, як кажуць, знайшлі ўзаемаразуменне, кажучы, што ў спрэчцы пазнаецца ісціна. А яшчэ госці паабяцалі падарыць ракетчыкам бібліятэчку кніг, у тым ліку сваіх уласных.

**Н. К.**

## ЖЫЦЬ БУДЗЕШ ВЕЧНА

**Зноў коціць гнеўна Нёман хвалі,
Бо знае бацька нашых рэк,
Што мы на горла мове сталі,
Каб змоўкла родная навек.**

**Яе б за стол, бліжэй да Бога,
Дзе пахнуць нівай пірагі.
Ды не — піхаем да парога,
Да абгарэлай качаргі.**

**Ці ўсведамляем, што з ёй страцім,
Што гонім са свайго двара?
Бярэ уладу ў нашай хаце
Яе "старэйшая" сястра.**

**Ні гаспадыня, ні служанка,
О, як жа цяжка сёння ёй.
Яна падобна на падранка,
Што абліваецца крывёй.**

**Дзесяцігоддзямі таптталі,
Плявалі проста ёй у твар.
І вось ён, здрадніцкі удар,
Шмат хто хіхікае: рас-пя-лі!..**

**Не пацірайце рук, панове,
Таварышы, суцішце тлум,
Не стаўце крыж на нашай мове —
Часовы гэты ваш трыумф.**

**Бо не спыніць струмень крыніцы,
Як не стрымаць паток ракі.
І мова родная царыцай
Пасад свой зойме на вякі.**

**І быць заўжды ёй у пашане
І падымаць да сонца нас.
А час такі, сябры, настане,
Дык — набліжайце гэты час!**

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**
*Пастаўскі р-н. в. Камаі*

Віктар КАВАЛЕНКА

# ДЫЯМЕНТЫ НАШАЙ КЛАСІКІ

## ДЫ 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНДРАТА КРАПІВЫ

У рускай літаратурнай крытыцы дэмак-ратычнага напрамку выказвалася думка, што сярод шматлікай і слаўнай плеяды рускіх класікаў XIX стагоддзя найбольш любіў Расію і рускі народ пісьменнік-сатырык М. Салтыкоў-Шчадрын. Можна не зусім пагаджацца з такім катэгарычна акцэнтаваным меркаваннем, можна адчуць у ім палемічны перабор, бо існуюць розныя формы і віды патрыятычнага пачуцця, і калі яны шчырыя і стваральна дзейсныя, то ўсе яны павінны лічыцца раўнапраўнымі. І ўсё ж гэтая думка ў пэўнай сістэме сацыяльна-маральных уяўленняў далёка не беспадстаўная. Сапраўды, любіць сваю радзіму і свой народ так, каб пачуццё любові дасягала парога злой насмешкі, нават здзеку і нянавісці, не кожны творца зможа і не кожны адважыцца. Разнавіднасць пачуцця любові, якая рэалізуецца праз сваю супрацьлегласць — нянавісць, здатная выпаліць душу чалавека, тым больш — пісьменнікую душу. Згодна слоў М. Салтыкова-Шчадрына, непадробная патрыятычная любоў — гэта сардэчны боль, які не сціхае, грызе, прыгнятае, асуджае на пакуты і знясільвае.

У беларускай літаратуры постаццю ў агульных абрысах найбольш блізкай да рускіх класікаў-сатырыкаў І. Крылова, М. Гогаля, М. Салтыкова-Шчадрына стаўся Кандрат Крапіва (Кандрат Кандратавіч Атраховіч) — выдатны байкапісец, празаік, драматург, публіцыст, буйны вучоны ў галіне філалогіі. Ён пражыў доўгае, але нялёгкае і складанае жыццё, як і большасць людзей яго пакалення.

Пачынаў Кандрат Кандратавіч літаратурную дзейнасць як байкапісец і дасягнуў у гэтым жанры высокага класічнага майстэрства. Ужо ўсведамляючы сябе сатырыкам і маючы пэўны творчы вопыт, ён пісаў пра сябе ў вершы "Крапіва" (1922):

**Не зайздрошчу я Чароту**
**І Купале не раўня...**

**Я ў мастацкім агародзе**
**Толькі марная трава.**
**А якая? — смех, дый годзе:**
**Я — пякучка-крапіва.**

Думаецца, пісьменнік у нейкай ступені ў гэтым вершы знарок прыніжаў значнасць сваёй асобы як сатырыка; падкрэсліваючы ва ўласным творчым абліччы пераважна побытавыя рысы і побытавую накіраванасць свайго таленту. Магчыма, ужо тады малады пісьменнік прадчуваў, што лепш атэставацца ў побытава-прыземленым самаасвятленні, чым на ўвесь свет заяўляць пра імкненне да глабальных сацыяльна-палітычных абагульненняў, хоць ён адмаўляцца ад іх не меў намеру. Занятак сатырыка ва ўсе часы быў небяспечны. Асабліва небяспечным ён аказаўся пры савецкай уладзе, у гады, калі махавік рэпрэсій пачаў круціцца з небывалым размахам.

20-я гады ў гісторыі савецкай дзяржавы, калі прыйшоў у літаратуру Кандрат Крапіва, вызначаліся адносным лібералізмам. Усё ў краіне яшчэ знаходзілася ў стадыі разбору, пошуку і апрабацыі. Сацыялістычныя ідэалы яшчэ не пабляклі ў свядомасці грамадства, панавала ўсеагульная эйфарыя рэвалюцыйных змен. Існавала свабода слова. Відаць, гэтай агульнай атмасферай і тлумачыцца вольны і буйны росквіт у беларускай літаратуры жанру байкі з яе маральна-сацыяльным пафасам, з яе вострай непрымірымасцю да заган, якія вялі ўбок ад правільнай жыццёвай дарогі. У гэтым пафасе і непрымірымасці — рэвалюцыйная ідэалогія, я сказаў бы, ідэалогія вялікай грамадскай надзеі. Бо і росквіт таленту байкапісца І. Крылова прыпадае на час радыкальных надзей у рускім грамадстве, якія жывіліся рэфарматарскімі намерамі цара Аляксандра І, дзеля практычнай распрацоўкі якіх быў створаны вядомы камітэт Сперанскага. А сатырычная творчасць М. Салтыкова-Шчадрына праблемна і ідэйна цесна ўвязана з вялікім сацыяльным узрушэннем эпохі, калі было адменена прыгоннае права.



Жанр байкі мае тую асаблівасць, што змест твора заўсёды універсальны. Бярэцца распаўсюджаная побытавая сітуацыя, але яе філасофскі сэнс усеабдымны, ён жыццёва сутнасны ва ўсіх аспектах: маральным, сацыяльным і палітычным. Возьмем, напрыклад, знакамітую хрэстаматыйную байку "Дзед і баба" (1925). Сюжэт яе, можна сказаць, сямейна-побытавы:

**Ехаў Дзедка на кірмаш,**
**З ім на возе — Баба.**
**Конік з выгляду — дарма,**
**Ды цягнуў ён слаба...**

**Пад узгорак або ў гразь**
**Конь насілу возьме,**
**Стала Баба памагаць...**
**Седзячы на возе.**

**Што ж, каню другі гадок,**
**Дык яна — за білы**
**Ды нагамі ў перадок**
**Пхне, як мае сілы.**

Змест гэтай байкі быў актуальны для рэчаіснасці 20-х гадоў, не менш ён актуальны і сёння. Алюзіі з сучаснасцю поўныя. Хіба наш дзяржаўны конік не малады і хіба яму няцяжка цягнуць воз?

А хіба мы свае цяжкія праблемы не імкнёмся вырашаць спрошчана і бяздумна, прычым з эгаістычнай выгадай для сябе персанальна? Агрэсія спрошчаных уяўленняў пры вырашэнні важных сацыяльных і палітычных задач, бадай што, стала адзнакай і карай нашага часу.

У змесце баек Кандрата Крапівы дыхае эпоха, калі яны былі створаны. Гэта — пераважна 20-я гады. Сатырыку давялося агітаваць за тое, каб у вёсцы будаваліся лазні, каб людзі ладзілі здаровы побыт, каб выхоўвалі ў сабе культуру паводзін, каб не тапіліся ў гарэлцы. Вось характэрны для Кандрата Крапівы сатырычны верш побытавага характару "Ратуйце!" (1922) — дарэчы, ён рэдка згадваўся крытыкай, неахвотна перадрукоўваўся і лёгка здагадацца, чаму.

**Быў на вёсцы я сягоння.**
**Ой, дык што ж там робіцца! —**
**Ну, паверце — ў самагоне**
**Скора вёска ўтопіцца.**
**Ад падатку ўсе там лішкі**
**Да астатняй мерачкі**
**Перагналі на кілішкі,**
**Чаркі ды кватэрачкі.**
**З кожнай вёскі да мястэчка**
**Бурна разліваецца.**
**З самагону цячэ рэчка —**
**Селянін купаецца.**
**Я пайшоў праз тую рэчку**
**Ў выканком дарогаю.**
**Там цвярозага са свечкай**
**Не знайшоў нікога я.**
**З выканкома цераз "плошчадь"**
**Я іду ў міліцыю,**
**А там зубы ўсе палошчуць**
**З тэй ракі вадзіцаю.**

Але байкапісец бачыў сваю задачу шырэй, а не толькі ў тым, каб "змываць дакастрычніцкі бруд". Ён пільна ўглядаўся ў паслярэвалю-цыйную рэчаіснасць: што новага прынесла рэвалюцыя народу і дзе старое не памерла, толькі змяніла знешняе аблічча, а можа, і абнавілася ў горшы бок. У гэтым плане цікава параўнаць байку І. Крылова "Волк и ягнёнок" і байку Кандрата Крапівы "Воўк і ягнюк" (1922), напісаную як наследаванне рускаму пісьменніку, чаго беларускі сатырык і не хаваў, бо байка мае здзекліва-саркастычны падзагаловак "Па-новаму" (гэтая байка таксама не ўключалася ў пасляваенныя зборы твораў пісьменніка). Дык як жа "па-новаму" распраўляецца воўк з Ягнём у новым часе? У Крылова крыважэрнасць воўка вынікае з яго драпежнай сутнасці, што зразумела. "Ты виноват уж тем, что хочется мне кушать", — у рэшце рэшт сумленна прызнаецца воўк. У Крапівы ж сказана:

**Але цяпер ваўкі ягнят**
**Ядуць няйначай па дэкрэту.**

Гэтым самым праводзілася

(Працяг на стар. 6-7)

Анонс

# У ІМЯ ЖАНЧЫНЫ!

У гэтыя святочныя веснавыя дні адбылося сумеснае пасяджэнне Управы Усебеларускага жаночага фонду святой Еўфрасінні Полацкай з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый, рэдакцый газет, міністэрстваў. У выніку плённай гаворкі было прынята рашэнне аб'явіць конкурс на ганаровае званне "Жанчына года" ў розных галінах грамадскай дзейнасці. А менавіта:

— сумесна з рэдакцыяй газеты "Звязда" — у галіне народнай творчасці;

— сумесна з Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння і рэдакцыяй газеты "Рэспубліка" — у галіне міласэрнасці і праваздзення ў жыццё міратворных ідэй;

— сумесна з рэдакцыяй "Белорусской деловой газеты", "Белорусского рынка", пры ўдзеле часопіса "Дело" — у галіне прадпрымальніцтва, прамысловай дзейнасці і дабрачыннай падтрымкі хрысціянскіх асноў жыцця беларускага народа;

— сумесна з рэдакцыяй газеты "Белавежская пушча" — у галіне экалагічнай дзейнасці;

— сумесна з Галоўным упраўленнем сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыяй "Настаўніцкай газеты" — у галіне педагагічнай практыкі і навукі;

— сумесна з Беларускім Хельсінскім Камітэтам — у галіне грамадскай дзейнасці;

— сумесна з літаратурна-драматычнымі рэдакцыямі Тэлерадыёкампаніі і газетай "Літаратура і мастацтва" — у галіне мастацтва, журналістыкі і драматургіі.

"Жанчыны года" будуць узнагароджаны Медалём святой Еўфрасінні Полацкай.

Конкурс закончыцца 1 чэрвеня г.г.

Просім прапановы і парады дасылаць на адрасы названых рэдакцый.

Са святам, дарагія жанчыны !

**Валянціна КОЎТУН,**
**прэзідэнт фонду святой Еўфрасінні Полацкай**

Варункі

# ЗНОЎ ПРА ЧАЧНЮ

**Некалькі слоў пра тое, як Расія "ўз'ядналася" з Чачнёй у 19-ым стагоддзі. У выніку войнаў з Турцыяй і Персіяй на пачатку 19-га стагоддзя да Расіі адышло Закаўказзе, але на шляхах каланізацыі стаяў незалежны Каўказ.**

**Ва ўрадлівых каўказскіх далінах будуюцца крэпасці, асяляюцца казацкія станіцы. Так, у 1818 годзе была заснаваная крэпасць Грозная. На вольных горцаў ляглі цяжкія павіннасці. Як пісаў адзін з відавочцаў: "павіннасці так абцяжарваюць народ, што не даюць нават часу ўбраць з поля хлеб, амаль усе мужчыны і жывёлы выключна занятыя імі".**

**Адразу ж пачаўся збройны супраціў. Вайна мела паўпартызанскі характар. Вайсковы міністр Мікалая І граф Чарнышоў пісаў: "План замірэння каўказскіх плямёнаў палягае на той галоўнай думцы, што... адзіным сродкам для дасягнення гэтай мэты прызнання... моц зброі..." Метады расійцаў былі падступнымі. Спачатку распрацоўваліся планы. Так, памочнік галоўнакамандуючага расійскімі войскамі генерала Ярмолава Вельямінаў прапаноўваў: "Знішчэнне іхніх палёў на працягу пяці гадоў запар дасць мажлівасць абяззброіць іх і тым самым аблегчыць усе наступныя дзеянні".**

**Затым гэтыя планы прыводзіліся ў дзеянне. Так, у 1882 годзе атаман Уласаў напаў "на землі чаркескія, дзе ён высякаў лясы, паліў засеяныя імі палі і, урэшце, нападаючы на аулы, знішчаў іх". Можна прыгадаць карны паход генерала Пестэля на буйное паселішча Башлы. Як згадвае генерал Ярмолаў: "У Башлах не засталося каменя на камені і прыкметы яго існавання цалкам знішчаныя". Як звычайны эпізод гэтай вайны чытаюцца словы Л. Талстога з "Каўказскага вязня" пра старога горца: "У яго было тры жонкі і восем сыноў. Усе жылі ў адной вёсцы. Прыйшлі рускія, вёску разрабавалі і сем сыноў забілі".**

**Не дарма генерал М. Раеўскі з горыччу зазначаў: "Нашыя дзеянні на Каўказе нагадваюць усе бедствы першапачатковай заваёвы Амерыкі іспанцамі". А. Пушкін у "Падарожжы ў Арзрум" запісвае: "Чаркесы нас ненавідзяць. Мы выцеснілі іх з прывольных пашаў; аулы іх разрабаваны, цэлыя плямёны знішчаны".**

**Што сабою ўяўляла расійская адміністрацыя на Каўказе? Не раўнуючы, як на Беларусі пасля "ўз'яднання": "Каўказ у той час быў прытулкам і зборным пунктам розных прайдзісветаў і шукальнікаў спосабу вынырнуць з бруду ці з няёмкага становішча", згадваў генерал Філіпсон. А. Бястужаў у "Каўказскіх нарысах" заўважае: "Што тут за каменданты, што тут за палкоўнікі! Так рукі апускаюцца!.. Апроч хабару нічога не ведаюць і не жадаюць".**

**А як жа расійская дэмакратыя? Як заўсёды. Сасланыя на Каўказ дзекабрысты бралі ў бруднай вайне чынны ўдзел і добрасумленна душылі незалежнасць горцаў.**

**Тым не менш, вайна ішла больш за 50 гадоў. Першы імам Каўказа Газі-Мухамед пачаў з таго, што ў 1831 годзе захапіў крэпасць Кізляр. У той час супраць яго ваяваў генерал Паскевіч...**

**Расійцы аргументоўвалі сваю палітыку на Каўказе "прыроднай схільнасцю да разбою" тубыльцаў. Зусім нядаўна генерал-"замірыцель" Чачні Барсукоў назваў усіх чачэнцаў бандытамі, зладзеямі і рабаўнікамі. Дык што ж змянілася за гэты час у псіхалогіі нашых усходніх суседзяў?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# ХАЙ ЯНО БУДЗЕ!

## АМАЛЬ СВЯТОЧНЫЯ НАТАТКІ

Жанчына заўсёды марыла пра Свята. Пра абавязковы атрыбут яго, сімвал прыгажосці — кветкі, пра цяпло і каханне. І ўсё гэта найлепш атаясамлялася з воблікам Вясны, адрачэннем ад холаду, вітаннем сонца і росквіту.

Чаму менавіта 8-га Сакавіка? Не, я не буду заглядваць у гісторыю сусветнага руху жанчын, працоўных і непрацоўных. Васьмёрка - 8 — такая зграбная, мяккая, плаўная, з пераходам у далікатныя выгіны, што так нагадваюць пэўныя элементы жаночага вобліку, адшліфаваны самой Маці-Прыродай. Акруглая, вытанчаная, як гітара, дасканалая ў сваёй завершанасці. Ці няма ўжо ў самім гэтым знаку-лічбе нечага, што міжволі спрыяла менавіта гэтай даце? Ды ў дадатак яшчэ акруглыя і паўакруглыя, сонцападобныя літары ў назве першага вясенняга месяца, якімі так хораша можна аздобіць святочную паштоўку.

Агульнавядома, што ад пачатку свайго ідэя гэтага свята была цалкам афарбавана колерамі чырвонымі, якія ў дадзеным выпадку сімвалізавалі не красу, а змаганне. Ля вытокаў маячаць вобразы Розы Люксембург, Клары Цэткін і кагосьці там яшчэ. Свята — Міжнароднае, як сцвярджалася на нашай зямлі. Менавіта так, з вялікай літары. А што сцвярджалася, таму, безумоўна, верылася. Міжнароднае — можна было прачытаць на ўсіх календарах, паштоўках, віншаваннях. У маім дзіцячым уяўленні пры слове "Міжнародны" ўзнікаў вобраз вялікага натоўпу (сапраўды, шматлюднага) жанчын, што выйшлі змагацца за свае правы, што патрабуюць роўнасці, вольнасці, незалежнасці. Моцныя мускулістыя фігуры, што быццам бы сышлі з плакатаў тых часоў, смелыя позіркі ў светлае заўтра, дзе вось-вось наступіць усеагульнае шчасце, і высока ўзнятыя далоні, якія грозна скрыжаваныя над... крывавымі разорамі. Але гэта яшчэ адзін чырвоны міф савецкіх часоў ці, дакладней, беларускага савецкага літаратуразнаўства. Гэта Цётка з яе рэвалюцыйнымі алегорыямі. Алаіза Пашкевіч, вытанчаная пані, тонкі псіхолаг, цудоўны празаік, шчырая беларуска. Але і яе здолелі перафарбаваць у выключна барвовыя колеры і зрабіць цалкам паэткай-рэвалюцыянеркай, адкінуўшы ўсё тое, што было ў ёй галоўным — жаноцкае, светлае, прыгожае, часам трагічнае, як у апавяданнях "Зялёнка", "Лішняя". Яе гераіні да апошняга імгнення заставаліся здольнымі бачыць у звычайным незвычайнае: "Здаецца Зялёнцы, што адплывае з залай кудысь углыб, а чырвоныя кветкі сыплюцца ёй пад ногі". Гэта не кветкі. Гэта яе гарачая кроў пакідае змучанае невылечнымі сухотамі цела. Жанчына адыходзіць у вечнасць: "Разбілася жывая ліра..." І нават перакрэсліўшы спрадвечнае народнае разуменне пра тое, што самагубства — найвялікшы грэх, яна ўздымаецца над гэтым грэхам, узвышаецца, свабодна перайшоўшы ў іншую рэчаіснасць: "А на дне русалкам-сёстрам нова госця былі складала" ("Лішняя"). У тым, што жанчына здольна ўспрымаць свет па-свойму, самастойна зрабіць выбар — быць альбо не — яна і застаецца па-сапраўднаму вольнай.

Але вернемся да колішняга (і не толькі майго) разумення жаночага свята. Уяўляецца яшчэ адна ненатуральна-магутная жаночая рука, што надзейна трымае серп побач з молатам. Яшчэ адзін атрыбут сілы, незалежнасці. Але хіба сапраўднай вольнасці? Жаночая роўнасць у тым, каб жаць, будаваць, а то і араць, прыручыўшы жалезных коней? Шырокавядомая скульптура Мухінай. Але недарэчнасць нават не ў прымітыўнасці жаночага вобліку, адлюстраванага ў гэтым шэдэўры сацрэалізму, а ў тым, што... Лепш працытую: "Венера Мілоская застанецца для чалавецтва вялікім помнікам мастацтва. Але наш сацыялістычны ідэал прыгажосці нязменна шырэйшы і вышэйшы за ідэал мінулых эпох. Успомнім скульптуру Мухінай "Рабочы і калгасніца". Якое шматграннае хараство новага, сацыялістычнага жыцця адлюстравана ў ёй!..." Гэта з падручніка да курсу "Уводзіны ў літаратуразнаўства" для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Такім чынам тлумачыўся сэнс паняцця "эстэтычны ідэал". Такое паняцце аб прыгожым прывівалася будучым настаўнікам літаратуры. Гэта састаўныя элементы тэатра абсурду, у якім гадаваліся цэлыя пакаленні жанчын.

Прага жанчыны да незалежнасці, барацьба за роўнасць. Хто гэтага прагнуў? Нейкая купка феміністак. Услед за вялікім Л. М. Талстым, які сцвярджаў, што фемінізм — з'ява лжывая, антыжаноцкая, з усёй адказнасцю сведчу: так, антыжаноцкая, бо яна накіравана супраць жанчыны ў жанчыне. Ад імя тых жанчын, якім непатрэбна такая вольнасць, якую прапанавалі сёння нашы шаноўныя мужчыны, урачыста адмаўляюся ад роўнасці ва ўсіх правах і ў бяспраўі. Роўна з вамі працаваць, ствараць, будаваць, ажыццяўляць, стамляцца, ісці ў шэрагах барацьбітоў за ўсеагульнае шчасце? І быць вольнымі, вольнымі, вольнымі... Якая ўсё гэта лухта! Нават прапаноўваючы жанчыне стварыць сям'ю — самае святое адзінства, вы здольны гаварыць пра саюз вольных людзей, забываючыся на тое, што вольнасць і саюз — з'явы супрацьлеглыя, узаемавыключальныя, бо можа быць або вольнасць, або саюз. Бо ў кожнай вольнасці аднаго абавязкова заключана няволя іншага, ад якой і здольна сілкавацца тая вольнасць. А сям'я — гэта і ёсць саюз. І ў ім, абсалютна свядома ахвяруючы сваёй незалежнасцю, жанчына толькі і здольная быць шчаслівай. Не змагацца за ўсеагульнае шчасце, а стварыць шчасце ў сваім гняздзечку — "каханы, кухня, дзеці" (Д. Бічэль-Загнетава). І я ўслед за паэткай таксама павінна рытарычна канстатаваць:

**Хіба я не сучасная жанчына?**<br>
**А вось маёй адсталасці прычына —**<br>
**прыёмны мой пакой,**<br>
**мая дзяржава — кухня,**<br>
**дзе пры цяпельцы ў дзежцы цеста пухне...**

Паколькі я нармальная жанчына і аддаю перавагу ў жыцці колерам не крывава-чырвоным, а блакітна-ружовым і згодна жыць і працаваць на карысць менавіта гэтай дзяржавы — маёй сям'і. Бо тым самым найбольшую карысць я прынясу і сваёй вялікай дзяржаве. Натуральна, у мяне, выхаванай у традыцыях сацыялістычнага зместу, узнікае пытанне: што ў такім разе я здолею зрабіць для народа? (Гучыць занадта пафасна. Але няхай.) Адказваю горда разам з гераіняй паэмы Веры Вярбы "Альфа":

— **Што ты зрабіла для народа?**<br>
— **Я гадавала вам дзіця.**

Бо толькі жанчына, па-сапраўднаму вольная ад той недарэчнай роўнасці, у якой мусіць існаваць зараз, здольная выгадаваць Чалавека.

У гэтым — захаванні і прадаўжэнні спрадвечных спраў — бачыла сэнс жаночай долі і Ларыса Геніюш:

**Наша доля — кудзеля, лён,**<br>
**нітку віць з недапрадзенай шпулі,**<br>
**вартаваць адвечны агонь —**<br>
**казкі, песні забытай бабулі.**<br>
**Дом — адвечная доля жанчын...**

Вобраз жанчыны ўзвышаны, авеяны арэолам загадкавасці, таямнічасці, бо яна зберагае не толькі матэрыяльныя сімвалы дабрабыту пакаленняў, але і яго духоўныя здабыткі, культуру, мову.

У нашым сучасным грамадстве асноўнай прычынай няшчасця жанчыны якраз і з'яўляецца страта дому, шлюбу. Бо для жанчыны страта яго — адзінага, каханага, гаспадара, абаронцы — ёсць страта галоўнага, што захіляе яе ад знешніх нягод. Адзінокая жанчына безабаронная перад светам. Разбураюцца сцены яе мікракосму. Яна — бяздомная. Верш гродзенскай паэткі Галіны Самойлы пра зруйнаванае жаночае жыццё так і называецца "Дом". Не дай Божа ні адной жанчыне мець такога дому. І гэтыя бяздомнасць, бяздольнасць — на кожным кроку:

**Дом згарэў,**<br>
**Каб ачысціцца ад граху,**<br>
**І дымяць галавешкі,**<br>
**Слёзы дрэў**<br>
**На бяздольным маім шляху**<br>
**І людскія насмешкі.**

Дзе ж тая слаўная гаспадыня, што зберагала скарбы продкаў? Страціла, згубіла ўсё. І самае галоўнае — без долі пакінута будучыня, дзеці:

**Дом палаў.**<br>
**Дымны вецер праз вокны ляцеў,**<br>
**Вынес кніжку-пацешку,**<br>
**Цень вясла**<br>
**І бяздомных маіх дзяцей**<br>
**сінявокую ўсмешку.**

А колькі жанчын, сапраўдных пакутніц за грахі роду чалавечага, сплывае нечалавечым болем, прагнучы стаць маці, даць жыццё і так і не здолеўшы гэтую прагу спатоліць... Пры чым тут свята, жаночая вольнасць, сённяшняе жыццё? Усё гэта бачыцца мне суцэльным ланцугом пакут. Занадта многа зараз такіх няшчасных, хілых, невядома чым выкармленых, невядома як выхаваных, прастуджаных, схварэлых, непадрыхтаваных ні фізічна, ні духоўна для выканання свайго спрадвечнага прызначэння. Ці быў у іх сапраўдны дом, сапраўдны агмень, які б пяшчотна і надзейна саграваў іх? Зазірнем, хоць і балюча, за фіранку, дзе пакутуе гераіня Анжаліны Дабравольскай з "Балады скверу":

**Рассыпалася рэха**<br>
**апошніх трамваяў,**<br>
**за шпітальнай фіранкай**<br>
**калыхаліся дрэвы.**<br>
**Я была па-за светам,**<br>
**па-за сном, па-за вамі —**<br>
**у тэатры абсурду**<br>
**з дэкарацыяй скверу;**<br>
**там, між бэзу і клёнаў,**<br>
**як і мы, шчэ зялёных,**<br>
**абламанай галінкай**<br>
**я знайшла цябе, сынку.**

Абломваюцца, знікаюць цэлыя галіны некалі магутных родаў. Беларусы як нацыя выміраюць?

Мабыць, у занадта драматычным напрамку скіраваўся мой (а хацелася, каб святочны) роздум. Вернемся да больш светлага. Жанчына ўсё ж шукае выйсце. З няшчасцяў, з нястач, з шэрай штодзённасці. Як гэта цудоўна, калі яна яшчэ ўмее ўзлятаць — хай сабе нават у нейкую прывідную, мройную пазамежнасць, як гераіня паэзіі А. Дабравольскай:

**А там, па-за светам, —**<br>
**пяшчота, пяшчота, пяшчота,**<br>
**А там, па-за светам —**<br>
**бяздонне, святло і каханне...**

Як хораша верыць! Але мы тут, на гэтай зямлі, у гэтых прасторы і часе і тут наша адзіная магчымасць рэальна існаваць, увасобіць сябе ў нешта вартае, годнае.

Жанчына заўсёды марыла пра Свята... Хай яно будзе!

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

*г. Гродна*

## ЗА БРАМАЙ НЕЎМІРУЧАСЦІ

**Прайшлі юбілейныя ўрачыстасці, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння выдатнага драматурга, байкапісца, мовазнаўцы, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка Акадэміі навук Беларусі Кандрата Крапівы.**

**У дзень нараджэння Кандрата Кандратавіча, 5 сакавіка, на фасадзе дома, дзе ён апошнім часам жыў, была адкрыта мемарыяльная дошка. На цырымоніі прысутнічалі прадстаўнікі кіраўніцтва краіны, знакамітыя беларускія літаратары, дзеячы культуры, навукі, родныя і блізкія К. Крапівы. Перад прысутнымі выступіў з прамовай памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С. Посахаў.**

**У гэты ж дзень жывыя кветкі ляглі на магілу Кандрата Кандратавіча на Усходніх могілках. Зноў жа — сабраліся тут тыя, каму дарага памяць пра выдатнага сына беларускага народа, таленавітага пісьменніка і вучонага.**

**А вечарам у памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы святкаванне юбілею набыло кульмінацыйны момант. Урачыстасць адкрыў і вёў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак. Са словам пра жыццёвы і творчы шлях Кандрата Кандратавіча выступіў дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі В. Каваленка. Пра К. Крапіву — пісьменніка, вучонага і чалавека — гаварылі старшыня Саюза пісьменнікаў Украіны Ю. Мушкецік, унучка Кандрата Кандратавіча, кандыдат мастацтвазнаўства А. Атраховіч, А. Дудараў...**

## "НЕ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ..."



**У непераходзячай каштоўнасці гэтых слоў яшчэ раз пераканаўся, калі пабыў на балі ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі. Правіла балам сябар дзяцей і дарослых — кніга. Тысячы назваў, сотні тысяч выданняў усіх вядучых выдавецтваў краін СНГ... Для таго, каб хоць бы бегла пазнаёміцца з асартыментам друкаванай прадукцыі і выбраць пакупку, неабходна аддаць не менш за тры гадзіны. Што і робяць з задавальненнем аматары кнігі, што прыязджаюць сюды па суботах.**

**Але адна сустрэча на кірмашы ў тыдзень для выбару кніг — гэта мала. І арганізатары кірмаша — Мінскі клуб кнігаабмену і акцыянернае таварыства "Міжнародны Кніжны Дом" адкрылі ў дапаўненне выставу-продаж паліграфічнай прадукцыі, якая працуе штодня ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры, што па вуліцы Кастрычніцкая, 5.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## А СНІД — НЕ... СПІЦЬ

**Беларускі рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу прадоўжыў да 1 красавіка конкурс на лепшы плакат па антыснідаўскай тэматыцы "Небяспека — СНІД", што чацвёрты раз праводзіцца ім сумесна з Міністэрствам культуры і Дзяржкамдрукам. Да ўдзелу ў творчым спаборніцтве запрашаюцца навучэнцы мастацкіх школ і ліцэяў, студэнты і выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў і Беларускага універсітэта культуры. І ўвогуле — усе жадаючыя. Аўтары лепшых работ атрымаюць прэміі ў памеры ад аднога да двух мільёнаў рублёў. Намаляваныя імі плакаты будуць размешчаны на календарах, сшытках, поліэтыленавых пакетах і запалкавых карабках.**

## БЕРАСЦЕ ЧАКАЕ

Сёлета 8—9 кастрычніка ў г.Берасці адбудзецца Міжнародная навуковая канферэнцыя "Берасцейская унія 1596 г.: тэалогія, палітыка, культура", прысвечаная 400-годдзю падзеі. Аб сваім намеры прыняць удзел у канферэнцыі паведамілі вядомыя спецыялісты з Беларусі і замежжа.

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне шэрагу пытанняў: уніяцтва з пункту гледжання тэалогіі; унія і палітыка; уплыў уніі на нацыянальную адукацыю і культуру беларускага і ўкраінскага народаў; унія і нацыянальная самасвядомасць беларусаў.

Тэзісы дакладаў аб'ёмам 1—4 старонкі машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, у 2-х экземплярах трэба даслаць да 20 мая 1996 г. на адрас: 224030 г. Брэст-30, абаненцкая скрыня N 14. Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя "Бацькаўшчына", праф. Яцкевічу С. А. Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але аргкамітэт просіць аўтараў паклапаціцца аб змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, а таксама аб іх стылістычнай і арфаграфічнай дакладнасці. Да тэзісаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі будзе выдадзены да пачатку яе правядзення.

*Тэлефон для даведак: 26-25-14 (код г.Берасця 8-0162).*

# ЖАНЧЫНЫ, ЖАНЧЫНЫ...

## СА СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАЙ ЖАНОЧАЙ ПАРТЫІ "НАДЗЕЯ" ВАЛЯНЦІНАЙ ПАЛЕВІКОВАЙ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ЛіМа" МІХАСЬ ЗАМСКІ.

**М. Замскі: З усіх міфаў, народжаных Савецкай уладай, ці не самым распаўсюджаным быў міф аб нібыта поўным разняволенні жанчын, наданні ім аднолькавых правоў з мужчынамі. У звязцы з кастрычніцкімі лозунгамі бальшавікоў: заводы і фабрыкі — рабочым, зямлю — сялянам, можна было смела паставіць і славуты ленінскі тэзіс аб тым, што кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай. Але далей нічым не падмацаваных дэкларацый справа, як вядома, не пайшла.**

**Праўда, падман гэты, у тым ліку і ў "жаночым пытанні", не заўсёды можна было выявіць. Па частцы маскіроўкі сваіх дзеянняў бальшавікі былі сапраўдныя віртуозы. З аднаго боку, перад жанчынамі сапраўды былі шырока расчынены дзверы да авалодання раней спецыфічнымі мужчынскімі прафесіямі ўрачоў, настаўнікаў, інжынераў, аграномаў, але ж, адначасова, і дворнікаў, асфальтаўкладчыкаў, кранаўшчыкоў, рамонтных рабочых і г.д.**

**В. Палевікова**: Усё гэта не зжыта і ў постсавецкі час. Па стане на 1-га студзеня 1995 года ў народнай гаспадарцы рэспублікі працавала 2,3 мільёна жанчын, або 52 працэнты ад агульнай колькасці рабочых, служачых і калгаснікаў. Разам з тым, для працуючых жанчын характэрным было адставанне ад мужчын ва ўзроўні кваліфікацыі, якое па цэлым шэрагу галін было на ўзроўні другога-трэцяга разрадаў, у той час, як 40 працэнтаў мужчын мелі пяты-шосты працоўныя разрады.

**— Магчыма, гэта рабілася і з не вельмі добрымі намерамі, але мне неаднойчы даводзілася бачыць, як замежныя турысты, убачыўшы на вуліцы жанчын з рыдлёўкамі і ламамі ў руках, адразу вымалі фотаапараты...**





*Фота А. КЛЕШЧУКА.*

— У цывілізаваных, багатых краінах жанчына-чорнарабочая — нонсенс. Як і жанчына ля заводскага канвеера, у "гарачым" цэху і да т.п. У такіх цяжкіх умовах, як у нас, працуюць жанчыны, мабыць, толькі ў краінах так званага трэцяга свету. У мяне няма апошніх дадзеных, але яны, я думаю, не лепшыя, чым тыя, што я вам зараз прадэманструю. Дык вось, толькі ў прамысловасці, будаўніцтве і на транспарце па становішчы на 31 снежня 1992 года больш як 130 жанчын працавала ва ўмовах, што не адпавядаюць стандартам бяспекі працы (або 39 працэнтаў ад усіх працуючых у гэтых умовах). Пры гэтым на прамысловых прадпрыемствах сярод рабочых, што працавалі ва ўмовах павышанага шуму, колькасць жанчын складала 41 працэнт, засмечанасці шкоднымі хімічнымі рэчывамі — 40 працэнтаў, павышанага ўзроўню вібрацыі — 17 працэнтаў.

**— І гэта не зважаючы на шэраг заканадаўстваў, якія забараняюць выкарыстанне жаночай працы на шкоднай вытворчасці...**

— Так. Неспрыяльныя ўмовы працы вельмі часта з'яўляюцца прычынай хвароб жанчын, нараджэння імі хворых і слабых, з рознымі паталагічнымі адхіленнямі дзяцей. Усё гэта — адна з першакрыніц надзвычай высокай дзіцячай смяротнасці ў краіне.

**— Некаторыя сацыёлагі лічаць, што ў нас беспрацоўе мае, так бы мовіць, жаночы твар.**

— З гэтым нельга не пагадзіцца. З агульнай колькасці беспрацоўных на долю жанчын прыпадае 64 працэнты. Пры гэтым палова з іх мае на ўтрыманні малых дзяцей. Сярод зволненых па скарачэнні штатаў і зарэгістраваных службай занятасці ў якасці беспрацоўных на 1-га студзеня 1995 года жанчыны склалі 77 працэнтаў, пры гэтым пераважная большасць з іх мела сярэднюю і сярэднюю спецыяльную адукацыю.

**— Але ж, даруйце, Валянціна Цімафееўна, жанчына ўсё ж з'яўляецца не асноўнай карміцелькай у сям'і...**

— Можа, і так. Але ўлічыце, што сёння ў нашай краіне кожная дзевятая сям'я — няпоўная. Як правіла, такая сям'я складаецца толькі з жанчыны і дзяцей. Вы, мабыць, ведаеце, якую мізэрную дапамогу атрымліваюць у нас маці-адзіночкі.

**— У нашай газеце падрыхтаваны матэрыял аб праблеме скасаванняў шлюбу у рэспубліцы. У ім прыведзены вельмі несуцяшальныя факты.**

— Скарачаецца і колькасць шлюбаў (з 9,7 на тысячу чалавек у 1990 годзе да 7,3 у 1994-м) і іх працягласць. Сёння скасоўваецца ледзь не кожны другі шлюб. І яшчэ колькі несуцяшальных лічбаў. Сумарны паказчык нараджальнасці ў 1994 годзе склаў толькі 1,5 дзіцяці на адну жанчыну, у той час як для простага ўзнаўлення трэба, каб на кожную жанчыну прыпадала не меней двух дзяцей.

**— Гэта ўсё ад "добрага" жыцця...**

— Менавіта так. Сацыялагічнае апытанне 252 замужніх жанчын ва ўзросце ад 18 да 34 гадоў, якое праводзілася ў сакавіку мінулага года Міністэрствам статыстыкі і аналізу пры садзеянні Сусветнага банку, выявіла, што сярод прычын, якія паўплывалі на рашэнне не "заводзіць" дзіця, рэспандэнтамі былі ў першую чаргу названы: эканамічная нестабільнасць у краіне, заклапочанасць наступствамі чарнобыльскай аварыі, неспрыяльныя жыллёвыя ўмовы, немагчымасць спалучаць працу з доглядам дзіцяці.

**— Мы ўсе ўжо прызвычаіліся да таго, што нашы жанчыны "ўкалваюць" на двух працах — на службе і дома.**

— Сумяшчэнне жанчынамі ў нас прафесійных і сямейна-бытавых роляў часта вядзе да канфліктаў у сям'і.

**— Усё гэта з-за таго, што мы, мужчыны, слаба дапамагаем сваім "палавінам" у хатняй працы.**

— Калі вы гэта без іроніі, дык я ўдзячна вам за такое прызнанне. Каб вы ведалі, у працоўныя дні жанчыны губляюць на хатнюю працу ў тры разы больш часу, чым мужчыны. Больш як 40 працэнтаў часу ў жанчыны займае кухня, прыгатаванне ежы, што звязана з цяжкасцямі ў набыцці прадуктаў харчавання, малым продажам паўфабрыкатаў, дапатопнай кухоннай тэхнікай.

**— Ім застаецца толькі цяжка ўздыхаць, пабачыўшы па тэлевізары, як завіхаецца ў сваёй кухні амерыканская ці французская жан-чына, кухні, абсталяванай цудамі сучаснай тэхнікі — ад мыечных машын да мікрахвалевых печаў. Я ўжо не кажу пра тыя супермаркеты нават у самых правінцыйных гарадах, дзе жанчына за лічаныя хвіліны можа купіць усё, чаго душа пажадае. І гэта не кіношная паказуха, якой нас часам частуюць, — як сведчаць нашы людзі, якія пажылі за мяжой, усё гэта рэаліі тамашняга жыцця.**

— Жанчыны амаль перасталі карыстацца паслугамі пральняў, хімчыстак, атэлье па рамонце адзення і г.д. з-за іх дарагоўлі і гэта таксама павялічвала на іх нагрузку ў хатняй гаспадарцы.

**— Як гэта ў Талстога: "Все счастливые семьи похожи друг на друга, каждая несчастная семья несчастна по-своему". Нядаўна вядомая тэлеперадача Уладзіміра Познера "Мы" была прысвечана тэме, якую можна было вызначыць прыблізна такімі паняццямі: жанчына і сям'я, жанчына ў сям'і. Удзельнікам перадачы было прапанавана выказацца па некаторых сямейных сітуацыях. Першая сітуацыя: п'яны муж моцна пабіў жонку. Яна выклікае ўчастковага міліцыянера і, калі той, пабачыўшы вялізны сіняк пад яе вокам, пачынае складаць пратакол, пытаецца ў яго "Што вы пішаце?" Пачуўшы ў адказ, што мужа яе будуць прыцягваць за здзекі над ёю да крымінальнай адказнасці і пасадзяць, пачынае лямантаваць: "Не трэба! Ён мяне любіць!" Міліцыянер ірве пратакол на шматкі і папярэджвае: "Скончыцца тым, што ён вас заб'е".**

— Я, на жаль, гэтай перадачы не бачыла, але карцінка досыць тыповая. Сапраўды, многія жанчыны ў сям'і падвяргаюцца насіллю, хоць, прызнацца, большасць такіх выпадкаў (пабоі, здзекі, пагрозы) застаюцца па-за ўвагай праваахоўных органаў, бо рэгіструюцца ў асноўным тыя выпадкі насілля, якія пагражаюць жыццю пацярпелай. Дадамо, што значная частка жанчын з-за ўласцівага ім менталітэту лічаць за лепшае дараваць мужу здзекі і не заяўляць міліцыі.

**— Жаночая логіка — які б ні быў муж, але ўсё-такі муж, мужчына ў хаце...**

— Спецыяльны ўлік выпадкаў насілля ў сем'ях не вядзецца, але ў статыстычнай групе справаздачнасці Міністэрства ўнутраных спраў выдзяляецца група злачынстваў, здзейсненых на глебе рэўнасці, сварак і іншых бытавых прычын.

**— Рэўнасць — гэта бытавая прычына? Атэла задушыў Дэздэмону на бытавой глебе? У часы "оные" рэўнасць наогул лічылі перажыткам капіталізму. Але ж гэта нешта больш глыбокае, ці не так, Валянціна Цімафееўна?**

— Магчыма, так, але тое, што я маю на ўвазе, як кажуць, з іншай оперы. Тут грунтуецца ўсё на адных жывёльных пачуццях... Але працягну далей. З 76 такога роду злачынстваў, зарэгістраваных у Мінску ў 1994 годзе, 29, мяркуючы па фабуле здарэння, адназначна сведчаць аб насіллі над жанчынай у сям'і.

**— Наколькі я ведаю, "впереди планеты всей" мы ідзём і па колькасці гвалтаванняў.**

— Так, памнажаецца колькасць жанчын, якія сталі ахвярамі сексуальнага насілля, — гвалтаванняў, забойстваў на сексуальнай глебе, прымусу да прастытуцыі, сексуальных праследаванняў на рабоце і ў сям'і, гандлю "жывым таварам" і г.д.

**— У Злучаных Штатах Амерыкі, я неаднойчы чытаў, досыць нявінны флірт з жанчынай, нават расказаны ў яе прысутнасці не вельмі пурытанскі анекдот можа быць расцэнены ёю, як пасягальніцтва на яе гонар і незалежнасць, і для "злачынцы" можа закончыцца кепска. Ва ўсякім разе, закон тут цвёрда стаіць на баку жанчыны. Але ж гэта ўсё дае падставу для шантажу, правакацый з боку лепшай паловы. Ці гэта ўсё — выверты феміністак-мужаненавісніц?**

— Пра рух феміністак мы яшчэ пагаворым. А пакуль звернемся да статыстыкі, паводле якой штогод у рэспубліцы ахвярамі гвалтаўнікоў становяцца 500—600 жанчын і дзяўчат, сярод якіх — нямала малалетак. Спецыялісты лічаць, што на самай справе колькасць гвалтаванняў у 5—10 разоў перавышае зафіксаваныя органамі правапарадку, бо пацярпелыя з-за розных прычын часта не паведамляюць пра няшчасце, якое з імі адбылося.

**— Але ж, бывае, гвалтаванне, хай і несвядома, правакуецца некаторымі занадта "раскаванымі" дзяўчатамі, якія з незвычайнай лёгкасцю гатовы бавіць час у незнаёмай кампаніі хлопцаў, і ўсё гэта заканчваецца...**

— Усё залежыць ад выхавання. А яно ў многіх сем'ях ведаеце якое... Апошнім часам у рэспубліцы рэзка ўзрасла і прафесійная прастытуцыя. На жаль, у нашым заканадаўстве адсутнічае юрыдычная норма, якая б давала дакладнае вызначэнне прастытуцыі. Не прадугледжана і крымінальная адказнасць за занятак прастытуцыяй, з-за чаго праваахоўныя органы не маюць магчымасці кантраляваць гэтую з'яву, ацэньваць яе маштабы.

**— Мне даводзілася гутарыць на гэтую тэму з юрыстамі, медыкамі, у прыватнасці, з венеролагамі, яны вельмі занепакоены незвычайным распаўсюджаннем у краіне сіфілісу і іншых венерычных захворванняў, якія ў значнай меры распаўсюджваюцца прастытуткамі. Усе яны лічаць, што пэўным чынам трэба было б легалізаваць прастытуцыю, каб хоць нейкім чынам кантраляваць яе.**

— Я думаю, што ёсць і іншыя спосабы змагацца з гэтай з'явай. Па-першае, трэба ліквідаваць "прарэхі" ў нашым заканадаўстве, прыняць закон, дзе б усё называлася сваімі імёнамі. Вы паглядзіце, што робіцца. У апошнія гады павялічылася колькасць фірм, якія аказваюць розныя інтымныя паслугі. Шырокае распаўсюджанне атрымала практыка заманьвання дзяўчат, маладых жанчын для працы ў розных замежных інтым-клубах, стрыптыз-шоу. Прычым робіцца гэта пад выглядам набору фотамадэляў, масажыстак, хатніх работніц і да т.п.

**— У грамадстве выспела вялікая трывога з нагоды алкагалізацыі насельніцтва, распаўсюджання п'янства, якое набыло нябачныя маштабы. Мне даводзілася пісаць пра выцвярэзнікі. Не малы працэнт іх кліентаў складаюць жанчыны.**

— Прывяду такую статыстыку. У 1990 годзе было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці за п'янства 277,6 тысячы чалавек, у тым ліку 14,6 тысячы жанчын, а ўжо ў 1993 годзе гэтыя паказчыкі адпаведна склалі 476,2 тысячы і 21,7 тысячы чалавек.

*(Працяг на стар. 12)*

вынішчана. Сапраўдны станоўчы герой п'есы не Карнейчык, які, баючыся за свой лёс, здрадзіў клятве ў цяжкі час дапамагчы сябру, а Лютынскі. Абылганы на чыстцы, названы ворагам народа, здраджаны сябрам, сваёй былой вучаніцай, а таксама жонкай, але ўнутрана не зломлены, Лютынскі з адчуваннем уласнай чалавечай годнасці пакідае залу, дзе яго "чысцілі". Што яго чакае за дзвярыма, вядома: ГУЛАГ або расстрэл. У гэтым была праўда жыцця: камандныя вышыні ў жыцці на гора ўсяму народу пачыналі займаць жорсткія, непісьменныя Карнейчыкі. Значэнне п'есы не толькі гістарычнае. Я ўпэўнены: калі яе паставіць на сцэне сёння, будзе поўны аншлаг.

Ці адчувала крытыка сапраўдную ідэйную накіраванасць зместу п'есы "Канец дружбы"? Мне здаецца, адчувала. Гэта відаць з таго, што яна ўсяляк пазбягала раскрываць канкрэтны сэнс галоўнага канфлікту, звяртаючы ўвагу на прыватнасці. Вядома, сказаць праўду адкрыта крытыкі доўгі час не маглі, бо гэта азначала б паставіць пад удар не толькі сябе, але і аўтара. Аднак пасля XX з'езда партыі мы абавязаны былі прааналізаваць гэты твор больш уважліва і пранікліва. Першую сур'ёзную спробу ў гэтым напрамку зрабіла крытык з Брэста Зоя Мельнікава, надрукаваўшы ў 1989 годзе ў газеце "Літаратура і мастацтва" (ад 28 красавіка) артыкул "Ахвяруючы лёсам друга..." Яна ж у тым жа артыкуле першай выказала меркаванне, што сучасная пастаноўка п'есы будзе карыстацца сцэнічным поспехам.

Шырокую вядомасць Кандрату Крапіве прынесла камедыя "Хто смяецца апошнім" (1939), за якую яму ў 1941 годзе была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. Праблемна яна блізка да папярэдняй п'есы. У ёй паказана, як у атмасферы страху і пастраху, створанай павальнымі рэпрэсіямі, на паверхню жыцця усплывае ўсё нікчэмнае, нядарнае, гідка амаральнае, каб глуміць сумленнасць і чалавечнасць з карысцю для сябе. І хоць камедыя мела шчаслівы канец, падрыхтаваны ў ходзе дзеяння сакратаром парткома, глядач адчуваў умоўнасць шчаслівага вырашэння канфлікту. Калі нават выпадковае з'яўленне на парозе ўстановы "Чалавека ў форме НКВД" уносіць страшэнную сумятню ў адносіны паміж супрацоўнікамі, то ўсё астатняе лёгка дамысліваецца.

Драма "Проба агнём" (1943) — паэтызацыя высакародных прынцыпаў паводзін чалавека ў смяротельных абставінах вайны. П'еса, на мой погляд, у нейкай ступені залішне літаратурная і трохі сентыментальная, але сіла ўздзеяння яе маральнага пафасу вялікая.

Камедыя "Мілы чалавек" (1945) мае свой асаблівы лёс (яна па сутнасці была забаронена і доўга пасля першай спробы не ставілася на сцэне). Аднак і яе месца ў беларускай літаратуры, бадай што, таксама асаблівае. Яе актуальнасць сёння проста назіральная. Яна нібы працягвае прамую сацыяльна-маральную і псіхалагічную лінію ад часу напісання ў нашы дні. Ужо тады драматург пранікліва заўважыў, што ў савецкім грамадстве спеюць буржуазна-капіталістычныя тэндэнцыі. Іх увасабляе галоўны персанаж п'есы Жлукта-Чарскі. Камедыя "Мілы чалавек" таксама мае шчаслівы эпілог. Жлукта-Чарскі выкрыты. Аднак перад заслонай ён гаворыць прарочыя словы: "Грэбуюць... Чарскі ім не кампанія... Ідзіце!.. Ідзіце!.. Чарскі без вас абыдзецца. Паглядзім, як вы без яго абыдзецеся". І сапраўды: не абышлася краіна без Чарскіх. Цяпер іх цэлая армія і менавіта яны вызначаюць аблічча сучаснага жыцця.

Самай папулярнай і самай выдатнай па ўсіх крытэрыях п'есай Кандрата Крапівы за пасляваенны час, як справядліва мяркуе крытыка, аказалася фантастычная камедыя "Брама неўміручасці" (1972). Яе змест — сатыра на савецкае грамадства перыяду застою і нястрымнай афіцыйнай паказухі, калі наменклатура, утварыўшы для сябе незлічоныя прывілеі, стала прагнуць увекавечання, неўміручасці сваіх імён у будучым пры відочным недахопе сапраўдных заслуг (дастаткова згадаць пяцізоркавыя геройчныя грудзі Леаніда Брэжнева). Гэта тыя ж Чарскія на новым этапе жыцця. Як кажа адна з гераінь, "поскудзь таксама хоча неўміручасці". Адной гэтай ідэйнай лініяй змест камедыі, вядома, не вычэрпваецца. Яго філасофія глабальная.

Лепшыя творы Кандрата Крапівы — гэта дыяменты беларускай нацыянальнай класікі, гэта бесперапынная, вечная школа майстэрства. Урэшце гэта сведчанне таго, што беларуская літаратура і мастацтва ў складаных і трагічных перыяды гісторыі знаходзілі ў сабе ўнутраную сілу і мужнасць гаварыць праўду. Хай не заўсёды ўсю праўду, але ўсё ж — праўду. Без пісьменнікаў такой духоўнай вышыні, як Кандрат Крапіва, беларускі народ не быў бы тым, кім ён ёсць сёння і кім будзе заўтра.

**Віктар КАВАЛЕНКА**

# З СЯМЕЙНАГА АРХІВА

У чорныя дні акупацыі, у глухім на той час мястэчку Шчучын, куды закінула мяне ваенная ліхалецце, у нашу хату, хату партызанскага сувязнога, разам з іншай падпольнай літаратурай трапіў сатырычны часопіс "Раздавім фашысцкую гадзіну", а ў ім фельетон Кандрата Крапівы "Наглядная геаграфія". Пра тое, як немец, прыехаўшы з фронту на пабыўку, расказваў жонцы, дзе і як ён атрымаў свае раны. Нельга передаць словамі ўражання, якое зрабіў на мяне гэты фельетон. Я смяялася і плакала, чытаючы яго. Смяялася дасціпнасці кожнага сказа, а плакала з радасці, што жыве наша, роднае, што не ўседзець немцам доўга на нашай зямлі, што блізка ўжо, блізка наша вызваленне.

З гэтым фельетонам я сустрэлася яшчэ раз — у бібліятэцы Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі. Пад пергаментнаю паперкаю, пад пэўным нумарам, адзінкаю захавання ён, напісаны рукою самога Кандрата Крапівы, ляжаў у пачэсным сховішчы. Я быццам сустрэла старога знаёмага, быццам фельетон гэты, праз многія гады, зноў трапіў да мяне, зноў узрушыўшы, хоць ужо і іншым узрушэннем — адчулася нешта падобнае на непарыўнасць часу, на бессмяротнасць.

Цяпер арыгінал гэтага фельетона захоўваецца ў школьным музеі вёскі Нізок "Роднае слова", у арганізацыю якога дырэктар школы Дзмітрый Мікалаевіч Сутколенка, яго жонка, выкладчыца гісторыі, Вольга Міхайлаўна, выкладчык французскай мовы Сяргей Алегавіч Армонік і іншыя настаўнікі ўклалі шмат старання і працы.

Фельетон абышоў усю Беларусь, паспагадаў перамозе над фашыстамі і запыніўся на радзіме.

У вёсцы Нізок, дзе нарадзіўся Кандрат Крапіва, нарадзілася і я, нарадзілася і мая мама Марыя Антонаўна Махнач. Па ўзросце яна была блізкая да свайго знакамітага земляка і ў маладосці бавіла час, калі можна так сказаць на сённяшні манер, у адной з ім кампаніі. І мама мне, ужо школьніцы, якая ведала на памяць шмат вершаў і баек Кандрата Крапівы, разумела, які гэта слаўны чалавек, расказвала, што нарадзіўся Кандрат Крапіва ў вельмі беднай сям'і, што яго маці рана памерла і жыў ён пры мачысе, што хадзіў у шарачку, гэта значыць, у саматканым адзенні, быў не вельмі вясёлы, не вельмі гаваркі, звычайны вясковы хлопец, ніхто не мог бы падумаць, што ён зробіцца такі знакаміты.

Жонка Кандрата Кандратавіча Алена Канстанцінаўна Махнач была стрыечнай сястрою маёй мамы, так што нашы сем'і звязвалі хоць і далёкія, але сваяцкія адносіны. Вось чаму ў маім архіве захаваліся фатаграфіі, падораныя Кандратам Кандратавічам маёй маме і якія дасюль нідзе не друкаваліся.

Мне цікава і дзіўна было слухаць успаміны маёй мамы пра Кандрата Кандратавіча. Мне, па маёй маладосці, здавалася, што пісьменнікам можа зрабіцца толькі незвычайны чалавек, ад роду пазначаны чароўнаю пячаткаю. А імя Кандрата Крапівы яшчэ задоўга да вайны грымела па ўсёй Беларусі, яго вершы, байкі ведалі тыя, хто ўмеў чытаць, і нават тыя, што не ведалі граматы — ад іншых завучвалі на памяць. Яго творы білі па цемнаце, па адсталасці, па крывадушшы, па прыстасаванстве, па ўсялякага роду подласці. Яны шырока крочылі не толькі па Беларусі, але і за яе межамі. Яны дайшлі, дажылі і да сённяшняга дня, іх вывучаюць у школах, яны гучаць са сцэны ў выкананні і прафесійных, і самадзейных артыстаў.

А далей пайшлі яго п'есы з неўміручымі тыпажамі, з рэплікамі, якія ўвайшлі ў нашу гаворку як прымаўкі.

Ён служыў свайму народу ўсімі сваімі сіламі, ён працаваў і працаваў — над новымі байкамі, п'есамі, над слоўнікамі, вырашаў праблемы Акадэміі навук на пасадзе яе віцэ-прэзідэнта.

Ён пражыў доўгае пачэснае жыццё, не звяртаючы ўвагі на тых, хто, па яго ж словах, "чхаў на лысіну". Разам з Янкам Купалам, Якубам Коласам Кандрат Крапіва законна лічыцца Народным пісьменнікам, разам з імі ён увайшоў у лік бессмяротных.

**Лідзія АРАБЕЙ**



*Дзеці Кандрата Крапівы — Барыс, які загінуў у час Айчыннай вайны, і малодшы — Ігар. 1930 г.*



*Кандрат Крапіва. На адвароце напісана: "На ўспамін Марусі ад Кандрата. 7.III.26 г.".*

# У МАСТАЦКІМ АГАРОДЗЕ...

Кандрат Крапіва, як вядома, прыйшоў у нашу літаратуру ў 1922 годзе. Сваё творчае крэда ён выразна акрэсліў у агульнавядомым вершы "Крапіва":

**Я ў мастацкім агародзе**
**Толькі марная трава.**
**А якая? — Смех дый годзе:**
**Я — пякучка-крапіва.**
**................................**
**Я расту вось тут, пад плотам,**
**І не так даўно ўзышла,**
**А ўжо многім абармотам**
**Рукі-ногі папякла.**

Вершы гэты ўпершыню быў апублікаваны ў газеце "Савецкая Беларусь". Дата яго напісання — 16 снежня 1922 года. Першапублікацыя трохі розніцца ад хрэстаматыйнай: папраўлены некаторыя словы. Скажам, радок "Як ў мастацкім агародзе" пачаткова гучаў: "Як ў савецкім агародзе". Трошкі інакш гучаў і радок: "І не так даўно ўзышла". У першапублікацыі ён гучыць так: "І хоць сёлета ўзышла..." Была ў першапублікацыі і яшчэ адна, вельмі істотная для гісторыі верша страфа:

**Не цягнусь я за Чаротам,**
**Не раўня Ясакару,**
**А расту сабе пад плотам,**
**Ціха, покуль не памру.**

З яе і пачынаўся верш. Аднак у далейшым аўтар страфу зняў. І зразумела чаму. Яна хоць была і канкрэтная, пошукавая — абыгрываюцца імёны пісьменнікаў, іхнія псеўданімы, якія паходзяць ад назваў раслін, але вельмі прыватная ў параўнанні з астатняй часткай твора.

Кандрат Кандратавіч, адчуваецца, вельмі любіў свой вершкрэда. І было за што. У ім аўтару ўдалося вельмі трапна вызначыць накірунак сваёй творчасці. Верш неяк лёгка, нязмушана выліўся з ягонай душы і зліўся лагодна з асобаю пісьменніка назаўсёды, на ўсё ягонае жыццё.

Кандрат Крапіва часта, калі яму даводзілася даваць аўтографы, браў радкі з гэтага верша.

У 1986 годзе, напярэдадні дзевяностай гадавіны з дня народзінаў, мне выпала завітаць да Кандрата Кандратавіча. Ён тады ўжо кепска бачыў, пісаў наўздагад. Але калі пачуў, што я хацеў бы мець аўтограф яго слыннага верша, сеў за стол і напісаў: "Я ў мастацкім агародзе..." Праўда, аўтограф атрымаўся не зусім роўны, але ён гістарычны і, можа, сёння адзіны.

З Кандратам Кандратавічам я меў не адну стрэчу і з самай рознай нагоды. Між справаю гутарылі пра многае. З усіх гэтых размоў запомніліся афарызмы: "Усё, што проста, гэта мудра". "Старасць пачынаецца з ног".

І яшчэ. У 1975 годзе Кандрату Крапіве было нададзена ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Праз пэўны час пасля гэтай падзеі мне давялося сустрэцца з ім у ягоным акадэмічным кабінеце. Кандрат Кандратавіч быў пры касцюме. На ім я намроў сабе ўбачыць і залатую зорку Героя. І вельмі быў здзіўлены, не ўбачыўшы яе на лацкане крапівінскага сурдута. Неяк далікатна пра гэта сказаў Кандрату Кандратавічу. Ён напачатку не зусім і зразумеў, пра што пытаюся. А калі зразумеў, неяк па-крапівінску стрымана ўсміхнуўся і абыякава махнуў рукою:

— Ат! Гэта проста так!.. Гэта прагучала: узнагарода гэтая — забаўка, цацка. А мне тады гэтак зняць хацелася аго для экрана з зоркай. Але і ягоная такая рэакцыя на ўзнагароду мне таксама вельмі спадабалася.

**Уладзімір СОДАЛЬ**



*Сярод студэнтаў БДУ, 1962 г.*



*Аўтографы землякам. Узда, 1957 г.*

# ЖОНКА ЛОЎЧАГА,

## або АПАВЯДАННЕ ПРА МУ́КУ АД ЖАНОЧАЙ КРАСЫ

Генрых ДАЛІДОВІЧ



адзенне на ёй было да ладу: чорныя валёначкі на спрытных нагах, шэрая спаднічка на спакусліва ёмкіх клубах, ліловая, з доўгімі рукавамі і запраўленая пад спаднічку блузка, што кідка напіналася на ўзгорачках поўных грудзей і падкрэслівала прыемную для вока звужанасць стану на паясніцы. Толькі цяпер я зразумеў, што нядаўна хацеў сказаць мне старшыня сельсавета: быць побач каля такой красуні — сапраўды, няпроста.

— Добры дзень, — усміхнулася Вандзя на маё такое ж прывітанне, і гэтая прыязная, як і ў яе мужа, усмешка яшчэ болей упрыгожыла яе мілы твар.

— Прымай, лясная фея, земляка-пісьменніка, — і ёй так, як і гаспадару, сказаў старшыня, пазіраючы на прыгожую жанчыну замілавана.

— Я чытала вашы кнігі, чула ваш голас па радыё, — ветліва, але зусім не прытворна прамовіла Вандзя мне, і я адразу адчуў: паколькі гаспадары, нібы змовіўшыся, гавораць мне амаль адно і тое ж, значыць дагэтуль перамаўляліся пра мяне як пра свайго госця-пастаяльца.

Ды Вандзя анечаканіла мяне:

— Выбачайце, але не зусім верыцца, што вы — сталы пісьменнік. На выгляд вы больш падобны на настаўніка.

— Чаму? — зусім не збянтэжыўся я.

— Мне здавалася: вершы і апавяданні пішуць маладыя, а паэмы і раманы — пажылыя людзі, сівыя альбо злыселыя мудрацы.

— Значыць, я, па-вашаму, яшчэ юнак? Пачатковец?

— Ды не... — Да яе шчок прыліла лёгкая чырвань. — Я — так, на першы позірк... Я ведаю: вы старэйшы за майго Пётрыка, але, як і ён, чупрысты, без сівых валасоў.

— Скажы адкрыта: як чалавек яшчэ маладжавы і файны, — пацвеліўся з жонкі Пятро.

— Ды ну цябе! — засаромеўшыся, махнула рукой на мужа Вандзя, замітусілася каля печы. — Распранайцеся і сядайце за стол, а я цёплы абед дастану. Пагрэйцеся з дарогі.

Пазней, калі ўсмак перакусілі смажаным і тушаным (можна смела, як аднойчы Ельцын у нашай Акадэміі навук пра сваю сустрэчу з Лукашэнкам, сказаць: "Хорошо покушали!"), я і Вандзя засталіся самнасам. Старшыня, з красамоўным намёкам падміргнуўшы мне, падаўся дахаты, гаспадар — у лес.

Як ні дзіўна, застаўшыся ўдваіх з пушчанскай красуняй, я не сумеўся ад гэтага. Паколькі тут не было электрыкі і тэлевізара, дык Вандзя не магла займаць мяне гэтым, як, бывае, атэлевізарваемся на бяседзе мы ў горадзе, а пачала паказваць сямейны альбом. Сваіх і мужавых бацькоў, родных, сяброў, сыноў. Большы вачыма і чупрынай быў падобен на бацьку, меншы прыгажосцю — на маці.

— Буднія дні жывуць у Налібаках у мамы, ходзяць у школу. Віця ў восьмым класе, Вася ў пятым, — патлумачыла яна мяне, з мацярынскім шчасцем пазіраючы на цыбатых хлопчыкаў. — На нядзелю, на святы забіраем дадому. Улетку ўвесь час тут.

— А вам не сумна тут, у пушчы, без людзей? — запытаў я.

— І сумнавата, і не, — адказала. — Муж увесь час у лесе, а я то клапачуся па гаспадарцы, то збіраю ягады і грыбы, то вяжу і тку — увесь час у рабоце і ў рабоце. А вам у горадзе, — усміхнулася, — не надакучаюць людзі?

— Як вы добра сказалі, і так, і не. Хоць мы там, у вялікім гурце, таксама жывём паасобку.

— Я ў горадзе, здаецца, не жыла б! — паварочала яна галавой, загарнула і паклала на калені альбом.

— Мы ж жывём.

— Не ведаю, — паціснула плячыма. — Першы раз, яшчэ дзяўчынаю, калі ішла з сястрой-гараджанкай на Камароўку, дык у мяне ў падземным пераходзе галава закружылася ад людской ракі. Ідуць і ідуць насустрач! Аж млееш ад гэтулькіх вачэй! А машын колькі! Лішні крок баішся ступіць, каб не трапіць пад колы! Ды і ў кватэры было шумна. Праўда, сястра мая не зважала на гул, храпла, а я паўночы не магла вачэй стуліць.

— Усе мы, вясковыя, прайшлі ў горадзе праз гэта, — пахітаў я галавою. — А нашы дзеці ўжо нялёка прывыкаюць да вёскі.

— А ў вас, выбачайце, якія дзеці? — шчыра зацікавілася яна.

— Я старэйшы, дык і дзеці мае старэйшыя: сын працуе ўжо ў газеце, дачка — студэнтка. Летась сын прысвоіў мне і жонцы званне дзеда і бабулі.

— Вы — дзед ужо? — здзівілася Вандзя.

— Ужо год.

Яна моўчкі пахітала галавою, а пасля, здаецца, таксама без ніякага збянтэжання пазіраючы мне ў вочы, запытала:

— А пра што вы тут хочаце напісаць?

— Вы чулі пра Вітаўта Вялікага?

— У школе — не, але па радыё апошнія гады чула часта. Быў некалі тут такі князь.

— Не проста быў і не проста князь, Вандзя, — захоплена сказаў я. — ён — адна з самых яркіх асоб не толькі зямлі нашай, але і ўсёй Еўропы ў 14—15 стагоддзях. Пры ім яшчэ да Кулікоўскай бітвы нашы продкі здолелі перамагчы ў вялікай бітве татараў, пры ім зямля, дзяржава наша стала адной з вялікіх і магутных сярод суседзяў, ён быў адным з вялікіх палкаводцаў у Грунвальдскай бітве, калі пабілі крыжакоў і на пяцьсот гадоў запынілі іхняе нашэсце на наш край. Вітаўт Вялікі вырашаў многія еўрапейскія варункі, уплываў на палітыку татар, асабліва крымскіх.

Вандзю, здаецца, уразіла мая палымяная захопленасць. Яна ўважліва выслухала маю лекцыю па гісторыі, а калі я спахапіўся і замаўчаў, паціснула плячыма:

— Але ж тое было даўно! Як вы будзеце пісаць пра тое тут, у пушчы?

— Лічу, што зімой 1410 года Вітаўт прыязджаў сюды на паляванне, — адказаў я. — Можа, і самому пазабавіцца, а можа, і наглядзець, як палююць іншыя, назапашваючы мяса для вояў, што меліся ўлетку схапіцца ў смяротнай сутычцы з крыжакамі. Тады было так: па "юс рэгале", што па-лацінску азначае "права арыстакратаў", на буйнога і высакароднага звера, на зубра альбо на аленя, палявалі князі і іншыя вышэйшыя асобы, а іншым дазвалялася паляваць толькі на драбнейшага звера: на ваўкоў, дзікоў, на ліса ды бабра. Паляванне на зубра я тут, канечне, не ўбачу. Гэта — і цяпер забава для ўладных свету гэтага, мяне туды проста не пусцяць. А вось тут я хачу пахадзіць на лыжах па пушчы, пераначаваць у ёй у палатцы, паназіраць, як паводзіць сябе лес удзень і ўночы, а таксама пастараюся трапіць на паляванне на лася і дзіка. Пасля гэтага буду ўжо намагацца ўявіць, што і як тады рабілі ўсе, хто быў на ловах: вялікакняжацкі лоўчы, аб'ездчыкі, станаўнічыя, асочнікі, стральцы.

— Вось як пісьменнікі пішуць! — адарыла яна мяне цёплай усмешкаю. — Выходзіць, трэба, як той пчале, нямала сабраць нектару для мёду!

— Трэба, — і я ўсміхнуўся ёй цёпла, радуючыся, што мы размаўляем спакойна і даверліва. — І я, грэшны пачаў ужо гэты збор. Праўда, яшчэ нічога не запісаў, але ўжо ёсць у запасніку памяці некалькі, лічу, яркіх старонак з будучага рамана, складзеных тут, у вашай хаце...

— Як? — проста ўразілася яна. — Склалі ўжо тут? Калі мы палуднавалі? Гаварылі і цяпер гаворым зусім пра іншае?

— Калі вы не супраць, яму магу зачытаць іх.

— Ды якое супраць? Прашу вельмі.

Я адкінуўся на спінку канапы, скрыжаваў на грудзіне рукі, заплюшчыў вочы і пачаў, як кажуць, "плесці кашалі" — прамаўляць тое, што, папраўдзе, прыйшло ў галаву якраз у гэтай хаце і нават амаль у гэтыя хвіліны:

"Пашанотная варта падвяла князя Вітаўта да леснічоўкі ягонага лоўчага, шляхціца N.

Гаспадар якраз быў дома, дык, пачуўшы конскі храп і брэх хортаў ды выжлаў, а пасля ўбачыўшы праз невялікую прарэзіну ў сцяне вялікакняжацкую світу, борздка накінуў на шырокія плечы кажух, шпарка выскачыў на двор і нізка схіліў чупрыністую галаву ў паклоне: да яго на кані з простай вобраццю набліжаўся ён, Вітаўт Вялікі, Уладар краю!

Вялікі князь, запыніўшы ўзмахам рукі слуг, сам спешыўся з каня і зусім не стомлена пасля вялікай дарогі, а бадзёра запытаў:

— Жыў-здароў, спадар лоўчы?

Гаспадар выпрастаўся і заззяў ад радасці:

— Жыў-здароў, ваша вялікасць. Чакаем вас, — павёў рукою. — Прашу ў маё жытло.

— Зайду, — ахвотна згадзіўся высокі госць, строгі і справядлівы да сваіх, грознік для суседзяў, хоць цяпер, у скураных аблямцаваных усярэдзіне ботах, у паношаным футры, быў, здавался, звычайным шляхціцам.

Са светлага двара Вітаўту ў першыя хвіліны здалося, што ў хаце цёмна, ён добра не разгледзеў, што тут ёсць, але спакваля пачаў бачыць схіленую ў паклоне маладзіцу.

— Дзень добры, — ажыўлена прамовіў ён. Дагэтуль ехаў пушчаю задумены, успамінаў апошнюю гутарку са стрыечным братам, каралём польскім Ягайлам, прыкідваў, дзе і як можа ўспыхнуць бітва з крыжакамі, але настрой ягоны сёння па меры таго, як набліжаўся сюды, да леснічоўкі, лепшаў, нібы ў прадчуванні чагосьці незвычайнага. Можа, і ад таго, што шляхціца N. са світы перад гэтым загадкава ўзбудзіў: "Пад'язджаем. Трымайся, вялікі князь". — "Не разумею. Патлумач". — "Хутка сам усё адчуеш і ўбачыш".

Маладзічка падняла галаву:

— Дзень добры, ваша вялікасць.

Звыкаючыся, Вітаўтавы вочы пачалі бачыць усё лепш. Агледзеўшы маладзіцу, ён нічога не паспеў падумаць, бо думку, таўхануўшыся па-маладому, апярэдзіла ягонае сэрца: у доўгім зялёным сарафане і ў кароткім шэрым, хораша вышытым фартушку, у шэрай, з сінімі васількамі скіндачцы перад ім стаяла статная красуня. На гэты час Вітаўту было каля шасцідзесяці гадоў, пражыў ён іх не толькі ў раскошы і балях, а і ў спрэчках, змовах, у бітвах, зняволенні, ва ўцёках і нападах, з неаднаразовай зменаю веры, меў розныя варункі з жанчынамі, — адным словам, шмат чаго ўжо ўбачыў і зведаў, здавалася, стаміўся розумам і сэрцам, але вось тут натруджанае сэрца забілася, як у юнака.

Адчуваючы свежы прыліў залюбаванасці, Вітаўт ажно пасвятлеў на твары:

— Як зваць цябе, маладзічка?

Яна адказала.

— Не ведаю, — жартоўна і ў той жа час сур'ёзна паціснуў плячыма, — хто тут каго ўхарошвае: пушча — цябе альбо ты — пушчу?!

Гаспадыня — а ёй было, мабыць, крыху за трыццаць — сумелася ад гэтых захаплення і пахвалы, але трымалася і перад ім, самім Вітаўтам, годна, што да пачуцця залюбаванасці ў яго прыліло яшчэ і пачуццё павагі да яе. ён, бадай, толькі цяпер па-сапраўднаму зразумеў, чаму такі адданы яму, але ў той жа час і спакойны, годны ягоны лоўчы: калі яна жонка яму, то іхняя абапольная годнасць, вернасць адно аднаму ўзвышае іх як людзей.

— Ты — жонка майго лоўчага?

— Жонка, ваша вялікасць.

— Дзе ён, пушчанец, знайшоў цябе такую?

— Тут, у Налібаках.

— Шляхцянка?

— Не, ваша вялікасць. Я з простага роду.

— Цуд прыроды! — усё захапляўся Вітаўт.

— Сядайце, ваша вялікасць, за стол, — запрасіла яна. — Я дастану вам цёплы абед з печы.

— Сяду-сяду, красуня, — згадзіўся ён. — І з'ем добра, бо прагаладаўся за дарогу.

Бачачы, што муж топчацца ў парозе, маладзіца падказала яму:

— Прынясі яго вялікасці і гасцям медавухі.

Той не заварушыўся, толькі ўсміхнуўся. Бачачы яе здзіўленне, Вітаўт патлумачыў ёй:

— Твой чалавек ведае: ніякіх моцных напояў я не ўжываю. І быў бы рад, каб і мае падданыя не захапляліся імі. А вось вару з зёлак альбо маліны, калі ласка!"

Я прамаўляў усё гэта ў звонкай цішыні, якую парушала толькі нягучнае ціканне гадзінніка на кухні. Адплюшчыў вочы: Вандзя, мабыць, дагэтуль так пільна пазірала на мяне, што цяпер аж уздрыгнула. Сумелася.

— Усё? — ціха запытала.

— Не, не ўсё, — усміхнуўся я. — Магу доўжыць і далей.

— Каб не бачыла на свае вочы, дык падумала б, што вы не сачынялі пры мне, а чыталі з напісанага ўжо!

— Так, Вандзя, павялося сёння маё натхненне...

— А што ж будзе далей?

— А як вы думаеце?

Яна паціснула плячыма, задумалася і апусціла вочы.

— Скажыце, зноў падала ціхі голас, — тых, лоўчага і яго жонку, вы прыдумалі?

Я, канечне, мог адказаць, што да сённяшняга дня нават і не ўяўляў, што буду пісаць пра жонку лоўчага, бо проста не думаў пра яе, але прамовіў інакш:

— Не зусім.

— Я хацела б прачытаць, як вы яшчэ пра іх напішаце.

— Тады прыйдзецца міжволі прысвяціць ім больш старонак, — усміхнуўся я.

— Яны будуць мець дзяцей? — здаецца, з патайным хваляваннем запытала Вандзя.

— Будуць.

— Яна, жонка лоўчага, будзе верная?

— Верная.

Яна памаўчала, а пасля паўшэптам прамовіла:

— Здаецца, я ўжо ўсё разумею...

— Што іменна? — з лёгкім хваляваннем запытаў я.

— Хітраваты вы: быў Вітаўт, можа, жыў і яго той лоўчы, а вось жонку лоўчага вы прыдумалі...

— Сцэна той сустрэчы, па-вашаму, непраўдзівая? — свядома звёў гаворку на іншае я. - Яна, жонка лоўчага, не была такая прыгожая і не магла так уразіць красой вялікага князя, пажылога чалавека? Ці гэтыя старонкі не ажываюць раман пра сур'ёзныя рэчы?

— Не, усё выглядае праўдзіва, — прамовіла яна ўзрушана. — Але... Ды хіба мне тлумачыць вам усё?..

Я ўзяў яе лёгкую, спрытную, дагледжаную і тут, у лесе, але, як адчулася, настойлівую руку. Вандзя тут жа зноў уздрыгнула, крыху са спалохам, крыху з недаўменным здзіўленнем зірнула мне ў вочы.

— Хто ведае, Вандзя, — не зводзіў з яе вачэй замілаванага позірку і я. — Можа, вы — прапраўнучка той пушчанскай красуні?! Калі яе не было, дык варта яе прыдумаць!

— Я ўсё разумею... Я зусім невыпадкова запытала, ці будзе ваша тая маладзіца верная мужу!

— І я невыпадкова вам так адказаў, хоць мог сказаць і іначай.

— Заплюшчыце вочы, — папрасіла.

Я паслухаў — Вандзя тут жа нахілілася і далікатна пацалавала мяне ў шчаку.

— Я ніколі такога з чужымі мужчынамі не рабіла і больш не зраблю, — нібы патлумачыла свой учынак. — Не ведаю, што вам гаварыў пра мяне старшыня сельсавета, але ён не раз стаяў перада мной на каленях, упрошваў, каб я хоць прытулілася да яго. І вялікія вашы, мінскія, начальнікі, што прыязджалі сюды на паляванне, кленчылі, спрабавалі даць мне і духі, і пярсцёнкі залатыя.

— Веру, — прамовіў я.

— Але я свайму Пётрыку не здрадзіла і не здраджу ніколі.

— Веру, — паўтарыў я.

— Вы, калі ласка, не пішыце пра гэта, але ведайце: некалі, калі была дзяўчынаю, у мяне балелі лёгкія. Я сказала пра гэта Пётрыку. ён усё роўна ўзяў мяне замуж і перавёз сюды, у лес, каб я залячылася. Я і аздаравела. Але жывём тут, каб і да мяне тое не вярнулася, каб і да дзяцей нашых нічога ліхога не прычапілася.

Не адплюшчваючы вачэй, я паднёс яе руку да сваіх вуснаў і пацалаваў яе і дадаў да гэтага:

— Дзякуй.

— За што?

— Што вы ёсць такая, што я магу пісаць хваласпеў жанчыне, сям'і, што ўрэшце вы натхняеце мяне напісаць раман пра тое, да чаго сполах, утрапенне падступіцца, дзе... Ды вы, як сказалі, самі ўсё разумееце...

Я сядзеў заплюшчыўшы вочы і трымаючы жаночую руку ў сваёй руцэ, і мне было вельмі хораша на душы, яе, гэтую маю душу, азарала штосьці ці то пушчанскае, ці то нябеснае. Я нібы крыху ўмею пісаць пра жанчын, пра каханне, але, прызнаюся, і цяпер, праз год, не магу зусім разабрацца, што я тады адчуваў...

...Я пабыў у той пушчанскай леснічоўцы дзён дзесяць — вандраваў па лесе на лыжах, схадзіў на паляванні на лася і дзіка, як не адгаворвалі мяне гаспадары, пераначаваў у палатцы (не ў прыклад вынослівым і смелым Вітаўтавым людзям крыху прапрадаваў дрыжыкі ад ляснога начнога вусцішу, нават пад раніцу не вытрываў і страляў са стрэльбы ў паветра, а да ўсяго мёрз і ў валёнках ды кажусе, дык пасля Пятро адпарваў мяне ў лазні, а Вандзя адпойвала зёлкамі). У Мінск вярнуўся здаровы, пасвяжэлы, але змучаны (праўда, хораша, узнёсла і радасна) Вандзінай красою.

Рамана пра Вітаўта Вялікага я яшчэ нават не пачынаў. То не магу падступіцца да гэтага з асцярогі, то пішу пра іншае. Нядаўна да мяне нечакана прыйшоў ліст. З Налібак. Знаёмы настаўнік літаратуры запрашаў прыехаць у школу, а ў канцы ліста дадаў, што "адзін ваш знаёмы чытач, які просіць не называць яго імя, з нецярпеннем чакае вашага новага рамана пра далёкае мінулае, хоча даведацца, калі і дзе ён будзе друкавацца".

Мілы чытач, мне няёмка як перад тымі, даўнімі нашымі продкамі, якіх трэба ажывіць, так і перад табою, сённяшнім чалавекам, які варты таго, каб таксама ўвекавечыцца ў кнізе!..

Тэатр

# СЫН І ТЭАТР СВЯТЛАНЫ АКРУЖНОЙ

***Акцёрскія трагедыі, — з тых, што не на сцэне здараюцца, — зазвычай маюць розглас і шэрагі тых, хто спачувае, і адзінкі тых, хто намагаецца дапамагчы. Тры гады таму СВЯТЛАНА АКРУЖНАЯ змусіла сябе пакінуць сцэну Акадэмічнага тэатра Якуба Коласа. Бо была адзіным чалавекам, які мог дапамагчы ўласнаму сыну. Няшчасны выпадак на вайсковай службе ледзь не пазбавіў яго жыцця. Назаўжды пазбавіў здароўя. Маці ратавала, даглядала, збірала сродкі ды шукала дактароў...***
***Святлана Акружная, народная артыстка Беларусі, вярнулася на сцэну ў спектаклі "Рэцэпт Макропуласа" К. Чапека (пастаноўка Мікалая Пінігіна). Адыграны ўжо пятнаццаты спектакль.***



— Я пазваніла Мікалаю, калі зразумела: або я зараз жа пачынаю працаваць, або — іду з тэатра. І Мікалай сказаў: "Светачка, я не магу табе адмовіць". І — засвяціла сонца. І сын быў жывы. Я разумею, што таго фізічнага стану, таго здароўя яму ўжо ніколі не вернеш. Немагчыма. Але падтрымліваць ягонае жыццё ды змагацца за кожны сантыметр руху я буду да канца свайго жыцця. Спектакль, напэўна, здзейсніўся і дзякуючы сыну: ён вельмі прасіў, каб я вярнулася на сцэну. Ён усведамляў, якая ахвяра была б... Нам трэба было толькі перамагчы. А перамагчы — гэта значыць без ахвяраў...

Любая жыццёвая сітуацыя, радасная або трагічная, мяняе артыста. Верагодна, я больш заглыбляюся ў ролю... Калі ў жыцці больш вясёлкі, шчасця, тады й па сцэне можна лётаць. А калі сітуацыя трагічная... Я сапраўды зрабілася іншай. Маё жыццё заўжды было багатае на драматычныя сітуацыі, у маім жыцці ўсё было, каб я загінула — і фізічна, і маральна. Ды вось неяк выжыла. Пасля таго, што здарылася з маім сынам, я зразумела і тое, што няздатная была зразумець у сваім прывідным дабрабыце. Я... баялася прэм'еры. Меркавала, не вытрываю фізічна: роля такая, што пляцоўку амаль не пакідаю. Досвед, праўда, вялікі. Але... Я не ведала, якая я цяпер. Прэм'ера і напраўду сталася вяртаннем. На сцэну. Я ж не ў дэкрэтным адпачынку была. Тры гады лякарняў, даставання сродкаў, кансультацый. Я змагалася за жыццё свайго дарослага сына. У мяне заўжды было дзве любові: сын і тэатр. А потым, раптам — сын і толькі сын! Перамяніліся каштоўнасці, іх месцы ў жыцці. І толькі калі вывезла Дзмітрыя ў Германію. (толькі там маглі неяк даць рады ягонаму раненню), дык раптоўна... засу-мавала. Ціснулі ўспаміны, якія — тэатр... Не схаваю, спалохалася. Ці змагу зноў выйсці да гледачоў? Без якіх — не магу? Страх ёсць і цяпер. Але — толькі да выхаду на сцэну.

На прэм'ерных спектаклях людзі апладзіравалі кожнаму майму з'яўленню, пасля кожнай сцэны... Неслі кветкі, вершы... А хто не паспяваў купіць кветкі, — зіма, я ж разумею, — нёс шампанскае. Бегалі ў нашу кавярню і па цукеркі, прабачаліся... На дзень нараджэння па радыё мяне надумаліся віншаваць з музыкай Меладзе. А я... не памятаю столькі кветак на нашай сцэне. Шкадую, што не было на прэм'еры Колі (Пінігіна — **Ж. Л.**): гэтая работа зладзілася толькі праз ягоную дабрыню ды чуласць.Ён жа заняты страшэнна! І гледачы гэта разумелі! Пыталіся ягоны хатні тэлефон, каб у Мінск пазваніць, падзякаваць за спектакль. За маё выйсце на сцэну. Я вельмі люблю Мікалая...

Я вельмі люблю іграць. Але — няшмат. Каб было відаць, дзеля чаго й каго выйшла. Рытм жыцця з году ў год мяняецца. Трэба тэатру гэта адчуваць. Як адчувае Пінігін. Мы працавалі над "Рэцэптам Макропуласа" як партнёры: карацілі п'есу. Дапамог, своечасова й хораша, Фонд Сораса. Я была моцна ўражана: колькі людзей чакала майго вяртання на сцэну! Казалі потым, што спектакль нават няможна параўноўваць з вядомым фільмам, памятаеце, з Гурчанкай у галоўнай ролі...

Я шмат працую. Цяпер больш — дома. Шкадавання да сябе не адчуваю. У свой час пабаялася замуж пайсці з-за сына: а раптам не будзе ў новай сям'і паразумення? Напэўна, з-за сына пабаялася змяніць і тэатр, і горад. Мяне запрашалі ў Маскву (дарэчы, трапіць туды, у Тэатр на Малой Броннай альбо ў Тэатр Савецкай Арміі мне было лягчэй, як трымацца ў Коласавым тэатры столькі гадоў), але — лёс мой тут. То — пасля аўтамабільнай катастрофы: якія тут прапановы прымаць? То — пасля аркестравае ямы (Акружную туды выпадкова выстрымнулі партнёры — **Ж. Л.**). Што я магла мяняць? Лёс — усё напоўніцу атрымаць у Віцебску. Мяркую, і мой лёс, і лёс майго тэатра — трагічны. Мы тут... асабліва нікому не патрэбны. Дый, здаецца мне, майстэрства наша не на самым высокім узроўні. У нас не любяць і не робяць зорак...

Я вярнулася ў тэатр і вельмі востра адчуваю: або набяром разгон, вышыню, маштаб, або — згубімся канчаткова.

**Святлану АКРУЖНУЮ слухала й запісвала Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Віцебск*

# "КОЖНЫ РАЗ ЗАХАПЛЯЦЬ НАНОВА"

***Сярод падобных мінская школа N 74 вылучаецца не толькі тым, што з першага класа там вучацца размаўляць па-французску. Перадусім, не маючы статуса тэатральнай, школа мае тры тэатры-студыі. "Clarté", дзе ўсё ставіцца па-французску, "Март" ("Сакавік"), дзе перавага аддаецца творам рускай класікі, ды "Клас-А!", дзе ставяць усё, што ўпадабаюць... "Клас-А!" летась выправіў у мастацтва (у студэнты Акадэміі мастацтваў) двух сваіх гадаванцаў, чым мяне дужа зацікавіў. Па ўдакладненні я звярнулася да кіраўніка "Клас-А!" рэжысёра ТАЦЦЯНЫ ШЫЛАВАЙ. І яна пачала з таго, што ўсе школьныя тэатры ўзніклі стыхійна. Нагадала, як у вядомай "Рэспубліцы ШКІД" школьнікі раптам пачалі выдаваць (пісаць ды перапісваць) газеты ды часопісы... Дастаткова было паставіць адзін спектакль, як... Як хутка з'явілася патрэба звярнуцца да дырэктара школы з просьбаю. Святкаваць свой, школьны дзень тэатра. Бо дзень тэатра агульнапрыняты, міжнародны, заўжды прыпадае на вакацыі. А патрэба ў ім — відавочная...***



**— Таццяна Алегаўна, я была на вашым свяце тэатра летась, калі сённяшнія студэнты Каця Агароднікава і Сяргей Савянкоў рыхтаваліся да выпускных іспытаў. Лавіла сябе на думцы, што, гледзячы на сцэну, прадстаўляю да іх прафесійныя патрабаванні...**

— Мне было вельмі прыемна, што мае дзеці пайшлі ў акцёры ды рэжысёры, нягледзячы на жорсткую праўду побыту. На малую зарплату, на вялікую занятасць... Трэцім з тых, хто паступаў, быў Паша Касцевіч. Яго не ўзялі, і было яму крыўдна, прыкра, і прыйшоў ён да мяне, і папрасіўся іграць у школьным тэатры, сказаўшы, што калі не будзе іграць цяпер, дык не стане — ніколі... Такі, відаць, моцны штуршок дае тэатр для развіцця душы. Тое, чаго так бракуе сучасным дзецям. Чытаюць яны мала. Тэле, відэа і да т.п. адымае час, у які мы з вамі колісь чыталі. Чытанне, напэўна, па сённяшніх часах — надта марудны працэс. А тэатр, відаць, прапануе нейкую моцную, ёмістую духоўную інфармацыю ў сціслым, канцэнтра-ваным выглядзе. Яны прыходзяць вельмі разумнымі, інфармаванымі, але ж эмоцыі шукаюць выйсця. А потым, спраўдзіўшыся ў тэатры, дзеці ўжо не могуць без яго жыць. Без зносінаў, росту, патрабаванняў.

**— А што калі школе напраўду дамагацца статуса тэатральнай? Гэта хораша дапаможа выпускнікам зарыентавацца ў прафесіях...**

— Тэатр у нас — для душы. Ведаеце, я не ўмею выбіваць ільготы, прывілеі ды выгоды. Мне лепш займацца дзецьмі. Я пачуваюся з імі ўпэўнена. Дый да нашай школьнай франкамоўнай спецыялізацыі дадаваць яшчэ нешта? Шматпрафілёвасць? Тэатр-студыя "Клас-А!" я пачынала як гурток... для сваёй дачкі. Каб жыццё ў яе было радаснае. Дзіця ў мяне адно і я, як маці, прапанавала класнаму кіраўніку весці тэатральны гурток. Але паколькі класны кіраўнік, Святлана Крыўцова, чалавек дзейсны ды актыўны, ад безаплатнай саматужнай дзейнасці мы зрабіліся тэатрам-студыяй. Я не хацела браць грошы (а раптам правал, а ўсе будуць казаць — яна за гэта грошы атрымлівае!). Для мяне, прафесійнага рэжысёра, усё, што датычыць дзяцей ды тэатра, проста свята. Нават пры сённяшніх скрутах ніяк не патраплю сябе пераканаць, што і ўлюбёная справа мусіць хоць неяк аплачвацца. Аднак мая ідэя стварыць тэатр на падставе аднаго класа не спраўдзілася. Сталі прасіцца дзеці, адмовіць я не магу. Праўда і тое, што жыццёвае напружанне (а яно спадарожнічае заняткам у школьным тэатры) вытрымлівае не кожны, бо тэатр — гэта шмат работы без свята, без гледача.

**— Колькі жыве ваш спектакль?**

— Адзін навучальны год. Некалькі паказаў. "Голы кароль" Шварца і таго не пражыў. Чаму? Таму што часцей за ўсё цэнтральныя ролі выконваюць выпускнікі. Спадзяюся сёлета зрабіць спектакль, які пражыве больш.

**— Значыць, самае цікавае застаецца ў рэпетыцыях. Тое найважнае, што ў прафесійным тэатры — галоўны вынік (спектакль), у вас — сам працэс яго падрыхтоўкі?**

— Так атрымліваецца. І — свята тэатра для школы. Але з дзецьмі, калі не іграць месяц, трэба ўсё пачынаць з пачатку. Амаль што з чыстага аркуша... Дзяцей трэба кожны раз захапляць нанова. Кожны разператлумачваць ідэю ды старацца ўнікаць паўтораў.

**— А што вы кажаце, калі яны збіраюцца ў тэатр не гледачамі, а — працаваць?**

— Рыхтую...

— Да горшага?

— Да мужнасці. Да цярпення. Але ж цікавейшай прафесіі (па адчуваннях, перажываннях) я не ведаю. Мы рыхтуем да прэм'еры "Маленькага прынца" паводле Антуана дэ Сэнт-Экзюперы. І я кажу ім словамі пісьменніка пра свет дарослых і свет дзяцей. Я ведаю, што калі яны выйдуць на сцэну, дык будуць думаць не пра тэкст, не пра мізансцэны... А пра тое, што дзесьці на маленькай планеце ёсць кветка, і з-за яе ўсё неба жывое ды размаўляе. І няма нічога найважнейшага за гэта. Я вяртаюся з дзецьмі да Экзюперы. У пятым класе мы ўжо ставілі "Маленькага прынца", у шостым — паўтаралі па-французску. А цяпер, у дзесятым ды адзінаццатым, усё адкрываем па-новаму. Хоць свет дарослых, сярод якіх так доўга жыў Экзюперы, мала змяніўся...

**— Свет дарослых, свет дзяцей... Нашы школы вылучаюцца іх супрацьстаяннем.**

— Цяпер для таго, каб прыжыць, настаўніку трэба падвоіць сваю нагрузку. Сорак гадзін заняткаў на тыдзень! І яшчэ, як класны кіраўнік маёй дачкі, займацца тэатрам.. Я ўжо даўно не сустракала ў школе ураўнаважанае, спакойнае дзіця. Настрыненыя, натапыраныя, часам злосныя. Натуральна, таму, што жыццё такое. І жахліва, калі гэтыя дзеці ды няшчасныя дарослыя сутыкаюцца... Не чуюць, не разумеюць адно аднаго. Часцей за ўсё. І на гэта балюча глядзець.

**— У вашага тэатра-студыі ёсць непаразуменні з настаўнікамі?**

— У нас ёсць настаўнікі, якія хочуць іграць у спектаклях. І, мяркую, варта даць ім такую магчымасць.

**Гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымку: Таццяна Шылава на леташнім свяце тэатра з удзельнікамі тэатра-студыі "Клас-А!".*

*Фота В. АМІНАВА*

**P. S. На 19 сакавіка, дзень тэатра школы N 74, рыхтуюцца прэм'еры тэатра-студыі "Clarte" ("Інтэрмецца" Ж. Жыраду; яго ж прадставяць на сёлетнім фестывалі франкамоўных спектакляў у Мінску), тэатра-студыі "Март" ("Сіняя птушка" М. Метэрлінка). У ролі Лётчыка тэатр-студыя "Клас-А!" прадставіць асістэнта Пасольства Францыі Філіпа Жанці. Мастак па касцюмах — Таццяна Лісавенка. Тая самая, што так выдатна апранала спектаклі Рускага тэатра...**

ЛіМ
ЧАСАПІС



# НЕ АЗІРАЮЧЫСЯ НА МІНСК

Кола чытання для аматараў гісторыі пашырылася яшчэ на адно перыядычнае выданне. Выйшаў у свет першы нумар гістарычнага навукова-папулярнага часопіса "Віцебскі сшытак". Фундатары выдання сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства "Белвест", кампаніі "АРТ МАРК", "Лізінг-сервіс", "Віткамлізінг", "Тэхналізінг", акцыянернае таварыства "Рубон". Заснавальнікі — Віцебскі абласны краязнаўчы музей, Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднанне.

Галоўны рэдактар Людміла Хмяльніцкая ў традыцыйным для першага нумара "Слова да чытача" піша, што часопіс ёсць чарговая спроба працягу даўняе традыцыі гісторыка-краязнаўчых і літаратурных перыёдыкаў, якія выходзілі яшчэ з 40-х гадоў мінулага стагоддзя. Выданне мае мэтай даследаванне гісторыі і культуры Віцебшчыны — вялікага і шматаблічнага рэгіёна. Але не толькі сіваў дауніна ў полі зроку рэдакцыі. Частку часопіснае прасторы мяркуецца адводзіць пытанням сучаснага культурнага жыцця рэгіёна. Паасобныя нумары "Віцебскага сшытка" будуць прысвечаны канкрэтным тэмам.

Часопіс адкрываецца публікацыяй Таццяны Бубенькі "Да пытання аб лакалізацыі царквы Св. Параскевы Пятніцы ў Віцебску". Далей — "Прыёмы фарміравання гандлёва-адміністрацыйнага цэнтра Віцебска ў XVIII ст." Алены Квітніцкай. Алена Трусава са спасылкай на дакументы расказвае "Гісторыю знішчэння Мікалаеўскага сабора ў Віцебску". Храм, які выстаяў у часе вайны, быў "разабраны" з дапамогай дынаміту ў 1957 годзе. Гэтыя матэрыялы ідуць пад рубрыкай "Urbis".

У рубрыцы "Studium" — "З гісторыі музычнай бурсы пры Віцебскім езуіцкім калегіуме" Вольгі Дадзіёмавай і "Віцебскі езуіцкі калегіум на пачатку XIX стагоддзя" Соф'і Кузняцовай.

Літаратурная спадчына — у рубрыцы "Logos". Тут чытач пазнаёміцца з навалацінскім паэтам Беларусі XVIII стагоддзя Францішкам Князніным і ягонай "элегіяй да Францішка Багамольца". Уступнае слова — Алеся Жлуткі.

У раздзеле "Scriptum" надрукаваны свайго роду сцэнарны план спектакля ў гонар шляхецкага роду Корвінаў Гасеўскіх. Спектакль быў пастаўлены ў тэатры пры Віцебскім езуіцкім калегіуме ў 1737 г.

Пра выдатных асоб, што пакінулі след у гісторыі Віцебшчыны і Беларусі, апавядаецца ў раздзеле "Persona". Людміла Хмяльніцкая знаёміць чытачоў з шэрагам прадстаўнікоў княжацкага роду Агінскіх ("Род фундатараў і мецэнатаў").

"Museum": "Фундуш Тадулінскага кляштару Тадэвуша і Ізабэлы Агінскіх" Іны Абрамавай, "Партрэты Эльжбеты і Антонія Пузынаў з касцёла ў Лупаі" Алы Букінай, "Кафля з гербамі Агінскіх з Віцебска" Тацціны Бубенькі і Людмілы Хмяльніцкай, "Шэдэўры з Віцебшчыны ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь" Надзеі Высоцкай і зноў Людміла Хмяльніцкая з публікацыяй "З гісторыі Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея".

Апошні раздзел гістарычнай часткі часопіса — "Archivum". Тут змешчана першая частка мемуараў Максіміліяна Маркса (1816—1893), якія ўяўляюць сабою надзвычай цікавы матэрыял па гісторыі Віцебска першай паловы XIX стагоддзя. Аўтар мемуараў вучыўся ў Віцебскай гімназіі, потым на медыцынскім аддзяленні Маскоўскага універсітэта, працаваў у Смаленску і Маскве, сядзеў у Петрапаўлаўскай крэпасці, у сібірскай ссылцы вывучаў побыт мясцовага насельніцтва, заснаваў першую ў Сібіры метэастанцыю. Рэдакцыя плануе надрукаваць поўнасцю раздзел, прысвечаны Віцебску.

Сённяшняе культурнае жыццё Віцебска адлюстравана ў інфармацыйна-аналітычным дадатку "Допісы на палёх". У "Допісах..." — хроніка, інтэрв'ю, творчыя партрэты, маналогі.




Наклад часопіса невялікі — 1300 асобнікаў. Але для Беларусі гэта, можа, і нямала. У свой час з боку культурніцкіх колаў Віцебска, Берасця, Гародні, іншых правінцыйных цэнтраў было шмат нараканняў да мінскай прэсы на адсутнасць увагі, цікаўнасці да ўсяго, што за межамі сталіцы. Пачынала выспяваць думка, што лепей праблемы вырашаць на месцах: трэба рэгіянальныя выданні па пытаннях гісторыі і культуры, рэгіянальныя імпрэзы, мясцовы патрыятызм.

У Віцебску гэтыя ідэі пачынаюць здзяйсняцца. А першы нумар "Віцебскага сшытка" сведчыць, што якасна рабіць справу можна і не азіраючыся на мінскае начальства.

**П. В.**

# ЖАНЧЫНЫ, ЖАНЧЫНЫ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— Ведаеце, Валянціна Цімафееўна, я вось слухаю вас і думаю, як усё-такі змяніўся час, а з імі наша стаўленне да жыццёвых рэаліяў. Я гэта вось да чаго. Скажам, яшчэ гадоў 5-6 назад такая гутарка на жаночую тэму ды яшчэ прымеркаваная да дня 8 Сакавіка працэнтаў на 90 складалася б з пераможных рэляцый аб дасягненнях беларускіх жанчын ва ўсіх сферах жыцця. Сёння мы з вамі сканцэнтравалі ўвагу на фактах негатыўных, і такая танальнасць, на маю думку, толькі на карысць справе.**

— Тым не менш, сапраўды можна было б шмат расказваць пра нашых выдатных, вядомых далёка за межамі краіны жанчын — урачоў і настаўнікаў, артыстаў і музыкантаў, літаратараў, мастакоў і вучоных.

І, разам з тым, з песні слова не выкінеш. У нас захоўваецца неадпаведнасць паміж растучым укладам жанчын з іх высокім асветным і прафесійным узроўнем у грамадскі працэс і іх удзелам у кіраванні краінай, магчымасцю прымаць рашэнні і г.д. Адным словам, становішча жанчын у сферы палітыкі ў нас незайздроснае. Як вы, мабыць, ведаеце, у савецкія часы ў рэспубліцы існаваў шэраг жаночых арганізацый, якія прама ці ўскосна кіраваліся дзяржавай...

**— Хутчэй прама, чым ускосна. Партыйнымі органамі, якія кантралявалі і накіроўвалі кожны крок гэтых "грамадскіх" утварэнняў.**

— Так. Але ва ўмовах сацыяльна-палітычнага і ідэйнага плюралізму адзіны жаночы рух на Беларусі перастаў існаваць. На змену яму прыйшлі розныя формы самаарганізацыі жанчын, якія не маюць жорсткай структуры, але аб'ядналі агульнымі інтарэсамі.

**— Наколькі я ведаю, ваша Беларуская жаночая партыя "Надзея" носіць выражаны палітычны характар?**

— Гэта праўда. Заснаваная ў чэрвені 1994 года, яна ставіць сваёй мэтай палітычна арганізаваць жанчын рэспублікі, прадстўляць іх у парламенце, іншых органаў дзяржаўнай улады.

**— Колькі ў ёй членаў?**

— Пяць з паловай тысяч. Не менш, як у некаторых іншых палітычных партыях і рухах. У нас ёсць свае аддзяленні ва ўсіх абласных цэнтрах, створаны пярвічныя арганізацыі. Ды ёсць тут адно "але". Многія жанчыны ў сілу сваёй ментальнасці разглядаюць нашу партыю як сродак вырашэння сацыяльных праблем. Палітыка іх цікавіць у апошнюю чаргу. Адным словам, палітычна актыўных жанчын у рэспубліцы мала. У мінулым годзе мне давялося прымаць удзел у сусветным жаночым кангрэсе ў Пекіне, і не перадаць майго здзіўлення і захаплення дэлегаткамі кангрэса — прадстаўніцамі краін чорнай Афрыкі, іх незвычайнай палітычнай актыўнасцю, разняволенасцю, эрудыцыяй, жаданнем зрабіць усё, каб палепшыць жыццё сваіх суплеменніц.

**— Як вы тлумачыце тое, што ў цяперашні склад Вярхоўнага Савета ўвайшло ўсяго 9 жанчын — нават менш, чым у папярэдні?**

— Вось тым, што я ўжо казала, — нізкай палітычнай актыўнасцю беларускіх жанчын. Я часта сустракаюся з прадстаўніцамі жаночых арганізацый краін Захаду і з зайздрасцю слухаю іх аповяды аб тым, што, да прыкладу, у парламентах краін Скандынавіі 50 працэнтаў парламентарыяў — жанчыны. Вы ж, мабыць, чулі, што ў Фінляндыі жанчына з'яўляецца нават міністрам абароны, у Нарвегіі — прэм'ер-міністрам.

**— Але што будзеш рабіць — тое, што ў нашым парламенце так мала жанчын — воля выбаршчыкаў. Не будзем жа мы прагнуць вяртання часоў, калі колькасць жанчын-дэпутатаў Вярхоўнага Савета вызначалася ў ЦК КПБ. Ды не толькі колькасць, а і асабовы склад — колькі павінна быць прадстаўніц сяла (па прафесіях), колькі ад рабочых, ад інтэлігенцыі і г.д. І ўсе яны праходзілі пры поўнай, амаль стопрацэнтнай падтрымцы выбаршчыкаў, якім, па сутнасці, было ўсё роўна, хто ў тым Вярхоўным Савеце сядзіць — напаўпісьменная свінарка ці доктар навук. Падымаць пры галасаванні рукі ўгору умее і тая, і другая.**

— Так, гэта ўсё праўда. Але тое, што ў беларускім парламенце мала жанчын — вынік і недасканаласці нашага закона аб выбарах. Усё-такі, як у Расійскай Федэрацыі, сістэма выбараў павінна была б быць змешанай — і мажарытарнай, і па партыйных спісах.

**— Дарэчы, гэта прапанавала ў парламенце апазіцыя БНФ, але не знайшла падтрымкі ў большасці дэпутатаў.**

— Шкада. Па многіх перадвыбарчых сацыялагічных апытаннях рэйтынг нашай партыі "Надзея" быў даволі высокі — мы ішлі на чацвёртым месцы пасля камуністаў, аграрыяў і БНФ. Пры мажарытарнай жа сістэме нам удалося правесці ў парламент толькі адну прадстаўніцу партыі — Марыю Міхайлаўну Вінакураву з Бабруйска, якая ўзначальвае там буйное домабудаўнічае акцыянернае прадпрыемства. Асабіста я ў час апошніх выбараў прайшла ва ўсе чатыры туры. Ды галасаванне на самым апошнім этапе не адбылося, бо не набралася ўстаноўленай квоты выбаршчыкаў.

**— Я ведаю, што ў рэспубліцы ёсць яшчэ некалькі ўплывовых жаночых арганізацый. Напрыклад, культурна-асветніцкая імя Ефрасініі Полацкай, якую ўзначальвае няўрымслівая Валянціна Коўтун, жаночы хрысціянскі рух, розныя жаночыя фонды і асацыяцыі. Як вы іх ацэньваеце?**

— Станоўча. Гэта добра, што яны ёсць. І мы амаль заўсёды знаходзім з імі паразуменне.

**— Апошнія гады характарызуюцца шырокім развіццём ва ўсім свеце феміністкага руху, які ацэньваецца сусветнай грамадскасцю неадназначна...**

— Усе мы па сутнасці феміністкі. У тым сэнсе, што выступаем за палітычную і сацыяльную роўнасць жанчын. А што тычыцца некаторых, так бы мовіць, крайнасцяў, характэрных для некаторых феміністкіх арганізацый краін Захаду, дык ці трэба зважаць на гэта? Галоўнае — не ў гэтым. Вядомаму французскаму філосафу Фур'е належаць словы: кожнае грамадства ацэньваюць па тым, як яно ставіцца да жанчын.

**— Сапраўды, гучыць вельмі сучасна. Дзякуй вам, Валянціна Цімафееўна, за гутарку.**

## ВІНШАВАЛІ ПАЭТА-ЗЕМЛЯКА

**Магілёўскаму паэту Аляксандру Мельнікаву нядаўна споўнілася 60 гадоў. З гэтай нагоды адбылася яго вечарына ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Аб творчасці юбіляра гаварылі дэкан філфака Магілёўскага педінстытута Я. Клімуць, супрацоўніца абласной бібліятэкі З. Украінка. А. Мельнікава віншавалі сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі У. Дуктаў, празаік І. Аношкін, паэты В. Карпечанка, М. Емяльянаў, М. Механікаў, намеснік дырэктара абласной бібліятэкі Н. Мельнікава, старшыня абласнога навуковага медыцынскага таварыства А. Мяжэнны. Вершы-прысвячэнні прачыталі юныя паэты з літаратурнага салона сярэдняй школы N 2 г. Магілёва Дзіма Ваюнкоў, Ілона Магедава, Валя Сівіцкая.**

**Вяла вечарыну супрацоўніца абласной бібліятэкі І. Швяцова. Дапамагалі ёй заслужаны работнік культуры В. Ермаловіч, у мастацкім выкананні якога прагучалі вершы А. Мельнікава, а таксама самадзейны кампазітар В. Шрамко і акампаніятар А. Дайнэка, якія выканалі песню "Мае вуліцы" на словы юбіляра.**

**У. САСНОЎКІН**

## ПАЎЛО ТЫЧЫНА І БЕЛАРУСЬ

**105 — дата, як быццам і не самая "круглая", але ўсё ж дата. Таму прайсці міма 105-годдзя з дня нараджэння знакамітага ўкраінскага паэта і грамадскага дзеяча Паўла Тычыны нiяк нельга. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Шаўчэнкі, П. Тычына быў добра вядомы і на беларускай зямлі, якую ён упершыню наведаў яшчэ ў 1928 годзе, а пасля неаднаразова бываў тут. Нямала зрабіў П. Тычына і дзеля прапаганды беларускай паэзіі на Украіне, перакладаючы на сваёй роднай мове творы лепшых нашых паэтаў. Пра гэта гаварылася на юбілейнай вечарыне, што праходзіла ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і была арганізавана таварыствам "Беларусь — Украіна" і Беларускай асацыяцыяй украінцаў "Ветра" пры дапамозе Саюза беларускіх пісьменнікаў. Перад прысутнымі выступілі С. Законнікаў, П. Гарэцкі, А. Пісьмянкоў, П. Прыходзька, А. Слесарэнка.**

## СТРЭЧАННЕ Ў ПРАЗЕ




**У Скарынавай Празе прайшлі сустрэчы грамадскасці горада з прадстаўнікамі сябрыны "Беларусь—Чэхія", Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Паспрыялі выкананню культурнай праграмы "Беларусы ў Празе" пасольства Рэспублікі Беларусь, Таварыства сяброў з народамі Усходу, Славянская бібліятэка пры Нацыянальнай бібліятэцы Чэшскай Рэспублікі.**

**Налета спаўняецца 480 гадоў, як там была выдадзена Скарынам першая кніга Біблії. Скарынаўскі семінар з гэтае нагоды правёў дацэнт філасофскага факультэта Карлава універсітэта д-р Вацлаў Жыдліцкі. Васіль Быкаў з Радзімам Гарэцкім правёў сустрэчу ў Пэн-клубе. "Беларуская капэла" з удзелам Віктара Скарабагатава з вялікім поспехам пазнаёміла пражанаў з музычнымі творамі XVI-XVII стагоддзяў. Была паказана выстава "Гісторыя беларуска-чэшскіх культурных сувязяў".**

**Ганна Сурмач, Ірына Шаблоўская, Вольга Іпатава, Францішка Сокалава, Георгій Галенчанка і іншыя ўдзельнікі культурнай праграмы выказалі свае меркаванні і пра дзейнасць Скарыны ў Празе, і пра многія іншыя праблемы беларускай прысутнасці ў Чэхіі. Былі ўскладзены кветкі да магілаў Пятра Крэчэўскага, Васіля Захаркі, Міхала Забэйды-Суміцкага на Альшанах. А на Стрэчанне-Грамніцы госці з Мінска прысутнічалі на ўстаноўчым сходзе па стварэнні беларускай сябрыны ў Празе, старшынёй якой быў абраны жыхар гэтага горада сп. Юрка Станкевіч.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: гравюра Міраслава Зімы "Славянская бібліятэка".*

***Статыстыка — рэч бязлітасная. Лічбы гавораць самі за сябе. Ды не проста гавораць, а — крычаць, лямантуюць, прымушаюць не толькі скалануцца, а і задумацца. У 1994 годзе ў Беларусі было зарэгістравана 75326 шлюбаў, а разводаў — 45753. Летась гэтыя лічбы былі (адпаведна) такія: 77039 і 43070. Больш чым палова шлюбаў канчаецца крахам — разводам. Чаму ж? Куды знікла каханне, якое звяло зусім нядаўна яе і яго для стварэння сям'і? Што знішчыла тое цудоўнае пачуццё, той цудоўны, чысты пачатак — выток жыцця? Чаму ж ён (яна) не зразумелі, што, звязваючы свой лёс з другім чалавекам, трэба зрабіць усё, што ад цябе залежыць, каб таму, другому, было з табой добра і шчасна? Толькі каханне дапамагае духоўнаму росту чалавека, толькі ўзаемнае пачуццё ачышчае і дае сілы. Шчаслівыя твары маладых сведчаць, што яны нібыта разумеюць і ўсведамляюць гэта. Што ж штурхае іх праз нейкі час да скасавання шлюбу? Як трэба разглядаць такую сумную статыстыку? Што гэта — вынік скрутнага часу канца стагоддзя і другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстовага? Якія асноўныя матывы гэтых крокаў былых мужа і жонкі, а часта і маці і бацькі сваіх дзяцей, чым апраўдваюць яны такі зыход свайго сумеснага — думалася ж: на доўгія-доўгія гады! — жыцця? Якога характару прычыны: эканамічнага, маёмаснага, духоўнага, фізіялагічнага, маральнага, бытавога? Што, урэшце, стаіць за скасаваннем шлюбу? Чым гэтая з"ява, што набывае ўсё больш пагражальныя памеры, небяспечная для грамадства? Якія яе блізкія і далёкія наступствы?***

***На гэтыя і многія іншыя пытанні дзе знайсці адказ? Пайшла ў суд — там жа скасоўваюцца шлюбы. Больш канкрэтна — у Фрунзенскі раённы суд Мінска, у якім скасаванняў шлюбаў па нашай сталіцы зарэгістравана найбольш. Старшыня суда Аляксандр ГІЛЕП ахвотна згадзіўся падзяліцца сваімі назіраннямі і развагамі. Больш за тое, запрасіў на гаворку і сваіх калег. У выніку атрымаўся спантанны "круглы стол" на гэтую самую "разводную" тэму.***

# "ЧЫМ З П'ЯНІЦАМ ЖЫЦЬ, ЛЕПШ У ПЯТЛЮ..."

## ШАСЦЁРА СУРАЗМОЎЦАЎ — ПРА АДНО І ТОЕ Ж: РАЗВОДЫ, ІХ ПРЫЧЫНЫ І НАСТУПСТВЫ

**Людміла ЛАПО, суддзя:**

— За сваю немалую ўжо практыку пераканалася, што асноўнай прычынай скасавання шлюбу з'яўляецца п'янства. Найперш, вядома ж, мужа. Пачуццё кахання знікае, гэтаксама як і жаданне займацца выхаваннем дзяцей. Інтарэсы яго ўжо недзе па-за сям'ёй, і зводзяцца яны, само сабой, толькі да выпіўкі. Нярэдка з'яўляецца іншая жанчына. Адсюль спрэчкі, сваркі, скандалы, а то й бойкі. А фінал — развод. Найбольш засмучаюць разводы зусім маладых мужа і жонкі, часта нават яшчэ і бяздзетных. Зусім нядаўна пабраліся, зусім нядаўна спраўлялі вяселле, збіралі сваякоў і сяброў і вось — разводзяцца. Ды яны ж проста не паспелі зразумець, спазнаць адно аднаго! Здзіўляе нейкая духоўная няразвітасць многіх, нейкая маральная няўстойлівасць, няўменне весці хатнюю гаспадарку і зарабляць неабходныя для сям'і грошы. Мне здаецца, тут большая віна жанчыны. Менавіта жанчына захавальніца сямейнага цяпельца, анёл-ахоўнік сям'і. Таму і адказнасць на яе кладзецца большая. Перш чым выходзіць замуж, трэба па-сапраўднаму ўпэўніцца, ці любіць цябе твой будучы муж, ці на самай справе шануе і паважае. А часта што назіраю? Аказваецца, выходзіць замуж, бо не першы месяц цяжарнасці, а то ўжо і дзіцятка на свет з'явілася. У выніку сям'я такая недаўгавечная: праз год-два малады муж, не кахаючы жонкі і дзіця нежаданае не любячы, пачынае шукаць суцяшэння не ў сям'і, а ў сяброў, у іншай жанчыны, і да разводу застаецца толькі крок. Часта да такога трагічнага фіналу прыводзіць і матэрыяльная неўладкаванасць, адсутнасць жылля. Яна жыве ў сваіх бацькоў, ён — у сваіх. Пайсці на кватэру, наняць пакой — сёння гэта вельмі дорага, далёка не ўсім па кішэні, а жыць з бацькамі не хочуць — вось і разводзяцца...

*Людміла Васільеўна і Аляксандр Іванавіч уступілі ў шлюб 12 гадоў назад. Маюць дваіх дзяцей (сына і дачку), жывуць у аднапакаёвай кватэры. Яна — швачка, працуе на беларуска-італьянскім прадпрыемстве, зарабляе добра, Ён — п'е, адусюль звальняўся па п'янстве, не затрымліваючыся больш чым на пяць-сем месяцаў. Ніякай дапамогі сям'і — ні матэрыяльнай, ні маральнай — не аказвае. Пакутае жонка, пакутуюць дзеці. Яны — сіроты пры жывым бацьку. Здаровы, малады мужчына ўсе клопаты пра дзяцей спіхнуў на жонку. Яна настойвае на скасаванні шлюбу, змагацца за сумеснае жыццё ўжо не хоча. Замест былога кахання ў душы адна нянавісць.*

**Алена ДУЛУБ, суддзя:**

— Адназначна: асноўная прычына разводаў — п'янства. І не проста п'янства, а сістэматычнае, з дня ў дзень. Жонка церпіць-церпіць, а пасля цярпенне канчаецца, прыходзіць у суд: "Чым з п'яніцам жыць, лепш у пятлю! Разводзьце і ўсё... І не ўгаворвайце!" Пасля разводу дзеці амаль заўсёды, за вельмі рэдкім выключэннем, застаюцца з маці. А як іх пракарміць, апрануць? З бацькі-п'яніцы дапамогі амаль ніякай. Для яго развод — таксама палёгка. Ды толькі ад чаго палёгка? Ён канчаткова здымае з сябе ўсе клопаты і абавязкі па ўтрыманні сям'і, па ўтрыманні і выхаванні дзяцей. І, як правіла, крымінальныя справы ў дачыненні да непаўналетніх дзяцей сведчаць, што гэта дзеці з няпоўных сем'яў, гэта дзеці, якія гадуюцца без бацькі. Восемдзесят працэнтаў малалетніх правапарушальнікаў — гэта дзеці-бязбацькавічы. Вось вам і вынікі разводаў. Шлюбная нявернасць, палавая, фізіялагічная несумяшчальнасць — гэтыя прычыны складаюць вельмі нязначны працэнт сярод прычын разводаў. Асноўная прычына, яшчэ раз падкрэслю, — п'янства, ці, калі карыстацца больш звычнымі для нас тэрмінамі, злоўжыванне алкагольнымі напоямі. Многія мужы-п'яніцы на час разводу ўжо нідзе не працуюць (каму патрэбен такі работнік!), спагнаць з іх аліменты практычна немагчыма, а тыя, што яшчэ спрабуюць дзе-небудзь працаваць, усяляк ухіляюцца ад уплаты аліментаў. У выніку сем'і пакутуюць ад нястачы, асабліва тыя, дзе двое, а то і трое дзяцей. Для шматдзетных сем'яў развод часам абарочваецца проста катастрофай.

Асобна хачу сказаць пра "жыллёвыя" прычыны разводаў. Досыць частыя тут фіктыўныя разводы. Высвятліць сапраўдныя акалічнасці досыць складана, хоць мы і стараемся гэта рабіць. Сацыяльна-эканамічныя ўмовы нашага жыцця такія, што людзі проста-такі вымушаны ісці на фіктыўны развод, каб хоць гэткім непрыгожым, амаральным чынам вырашыць ці хоць бы палепшыць свае жыллёвыя ўмовы...

*Ганне Пятроўне — 45 гадоў. З мужам пражыла 20 гадоў. Выгадавалі дзвюх дачок — 17 і 15 гадоў. Жылі ў двухпакаёвай кватэры. Муж — будаўнік. Падышла чарга на пашырэнне жыллёвай плошчы. Падрасталі дзеці, старую кватэру не хацелі пакідаць, прапісалі маці, афармілі фіктыўны развод. Зрабілі ўсё, каб мець дзве кватэры. Але муж Генадзь Васільевіч, які апошнім часам працаваў у турэцкай будаўнічай фірме і зарабляў нямала, раптам адчуў сябе вольным казаком. Да жонкі не вярнуўся, знайшоў маладзейшую. Фіктыўнае скасаванне шлюбу стала сапраўдным.*

**Іна УГНІВЕНКА, суддзя:**

— Да сказанага калегамі хачу дадаць такія штрыхі. Развод сам па сабе яшчэ не ставіць, як правіла, апошняй кропкі ў трагедыі маладой ці старой сям'і. Вось Алена Сяргееўна гаварыла пра фіктыўныя "жыллёвыя" разводы. А самае ж страшнае — не фіктыўныя, а сапраўдныя разводы. Муж і жонка разведзены, а працягваюць жыць у адной і той жа кватэры: разысціся, ажыццявіць абмен ці, дакладней, размен — вельмі і вельмі няпроста. І людзі, якія зноў сталі чужымі, ды не проста чужымі, а часта непрымірымі ворагамі, жывуць разам і атручваюць адно аднаму жыццё, ядуць адно аднаго поедам. Што чуюць і бачаць у гэтых прытулках зла і нянавісці дзеці — адзін Бог, як кажуць, ведае! І яшчэ пра адно хачу сказаць. Пра з'яву апошняга часу. Вось прыходзяць з заяваю на развод добра апранутыя, на выгляд досыць інтэлігентныя людзі. Нішто быццам не гаворыць пра нейкую трэшчыну між ёю і ім. Ды высвятляецца такая схема. Ён працуе ў камерцыйнай структуры, добра зарабляе, забяспечвае яе на зайздрасць іншым. Але праз нейкі час жонка даведваецца, што вяртаецца муж позна дахаты не з-за работы, а з-за таго, што займеў іншую. Маладая прыгожая сакратарка — вось прычына штодзённай затрымкі на рабоце. Жонцы — за сорак, выгадавалі разам дваіх дзяцей. І ён не маладзён, пад пяцьдзесят, але грошы, віно, маладыя дзеўкі ўскружылі галаву, зноў успомніў пра забытае было каханне. Слова за слова — вось і прыйшлі разводзіцца. Не бянтэжацца, не саромеюцца ўжо дарослых дзяцей, якія, дарэчы, у любым узросце вельмі балюча перажываюць такія ўчынкі сваіх бацькоў. Наогул, мяне надзвычай абурае тое, як паводзяць сябе людзі, якія наважыліся — па розных прычынах — разысціся. Рэдка які суд праходзіць, скажу так, цывілізавана. Часцей за ўсё даводзіцца выслухоўваць надзвычай шмат бруду, лаянкі, непрыстойных сварак, абвінавачванняў адно аднаго ў самых неймаверных грахах. Брыдка глядзець, як нават, здавалася б, з інтэлігентных людзей спадае тут вэлюм прыстойнасці і выхаванасці.

**Аляксандр ГІЛЕП, старшыня суда:**

— Раней да п'яніц прымаліся меры грамадскага парадку: пра ягоныя паводзіны паведамлялася на працу, імі займаліся таварыскія суды, што прыносіла ўсё ж пэўны станоўчы плён. А зараз што? Муж-п'яніца здзекуецца з жонкі і дзяцей, б'е іх, а што можа зрабіць жанчына? Паклікаць участковага? А што той зробіць? Месц у ЛПП няма, каб хоць на час пазбавіць сям'ю ад здзеку. А гарэлка робіць сваё. У чалавека надыходзіць алкагольная дэградацыя асобы, паяўляюцца алкагольныя псіхозы, апафеоз якіх — белая гарачка. Бедай жонцы і маці застаецца адно — развод. Толькі ж — ці заўсёды і ён паратунак? Дарэчы, не гаварылася тут пра ўзрост разваднікоў. Дык вось, узрост гэты — пераважна 25—45 гадоў. Пасля 50 гадоў людзі рэдка разводзяцца.

**Іна УГНІВЕНКА:**

— Назіраецца і яшчэ адна тэндэнцыя. У нашым грамадстве адбываецца, практычна адбылося ўжо расслаенне людзей на бедных і багатых — прамежкавы пласт, з так званым сярэднім дастаткам, невялікі. Багатыя людзі маюць нерухомасць, якая ўжо можа пацягнуць на многія мільёны рублёў. У сувязі з тым, што ў нас не надта дасканалае заканадаўства, у сферы эканомікі пануе так званы "беспредел", прадпрымальнікі часта маюць незаконна набытыя капіталы. І калі гэтым капіталам пагражае падатковая інспекцыя, ці калі ўзнікаюць міжасабовыя разборкі, нехта з "дзелавых" людзей павінен, а не хоча некаму плаціць, то для таго, каб вызваліцца ад капіталаў, найперш ад нерухомасці (дом, кватэра, дача, машына і г.д.), новыя багацеі скасоўваюць шлюб. У выніку разводу ўся маёмасць пераходзіць да жонкі, а ён, злоўлены на нячыстай справе бізнесмен, гол як сакол. Хачу падтрымаць Аляксандра Сільвестравіча адносна прафілактычнай работы з сем'ямі. Такая работа наогул адсутнічае ў нас. Прыходзяць людзі разводзіцца, нават людзі сярэдняга дастатку і інтэлектуальнага ўзроўню, і першы чалавек, з кім яны могуць пагаварыць пра сваю бяду, — гэта суддзя. Разумееце, аніякай псіхалагічнай дапамогі! Вось здрадзіў муж. Жонка, расплакаўшыся, пад гарачую руку прыносіць заяву на развод. Само сабою, што ісці яна павінна не да суддзі, а да псіхолага, які супакоіць жанчыну, растлумачыць, што здрада — гэта памылка, памылка жорсткая, але ж мо не трэба ёю перакрэсліваць усё пражытае жыццё, усё тое добрае, што было ў іхнім сумесным сямейным жыцці. Карацей кажучы, няма каму выліць сваю крыўду, горыч беднай жанчыне, няма таго, хто б выслухаў, зразумеў і падтрымаў. Маці ці сяброўка тут не заўсёды дапаможа, яны і без таго будуць на яе баку. А што да вынікаў разводаў, дык найбольш шкада мне — дзяцей. Жыццё іх, сама мякка кажучы, будзе ўжо скалечанае. Настолькі шкада, што, часам, думаю: а ці не лепш забіраць дзяцей з такіх сем'яў наогул...

**Аляксандр ГІЛЕП:**

— Хочацца нагадаць жанчынам, якія збіраюцца разводзіцца, каб не спяшаліся з прыватызацыяй кватэры. Размяняць прыватызаваную кватэру куды цяжэй, чым дзяржаўную, і выселіць з яе таго ж мужа-п'яніцу практычна немагчыма. Кватэра сапраўды ператвараецца ў пекла не толькі для жонкі і дзяцей, але часам і для суседзяў. З другога боку, удалося выселіць п'яніцу, не пусціла яго былая жонка на парог. І што? Былы муж папаўняе армію бомжаў і злодзеяў-папрашаек. Як кажуць, ці савой аб пень, ці пнём аб саву. І ў сувязі з гэтым не магу не сказаць пра наш алкагольны гандаль. Дзяржава ад яго, кажуць, атрымлівае прыбытак. Нават нібыта вялікі прыбытак. Яшчэ б! Гарэлкі ж паўсюль мора — сваёй і прывознай. Няўжо ж кіраўніцтва дзяржавы не бачыць, што хутка захлынемся ў ёй? Хоць бы спынілі прывоз замежнай атруты. Цяпер напіцца чалавеку — як плюнуць. Дзе хочаш і калі хочаш, абы грошы. Прададуць ці нальюць у любы час сутак — ніхто не забараняе, пі, колькі ўлезе. Вось і п'юць. А напіўшыся, учыняюць дома скандалы, б'юць жонак і дзяцей, не даюць спаць суседзям. А каб піць, трэба грошы, а зарабляць іх не хочацца, ды і не надта сёння заробіш, лягчэй украсці. Вунь як узрасла колькасць кватэрных крадзяжоў! Гэта ж невыпадкова! Трэба нешта неадкладна рабіць. Ну хоць бы перш-наперш асвятліць вуліцы, двары, пад'езды, лесвічныя клеткі. Усе ж злачынствы — адтуль, ад цемры, усё брыдкае, агіднае і злачыннае робіцца ў цемры. Я гэта да таго, што разводы нельга адрываць ад усяго астатняга, што творыцца ў грамадстве. Паглядзіце, што паказваецца па тэлебачанні — па расійскім, вядома? Колькі там распусты, мардабою, самых розных, падчас проста неверагодных злачынстваў, нізкапробных забаў, пошласці?! Усё сплецена, завязана, закручана ў адзін клубок, і развод, пра які мы гаворым, нельга адарваць ад усяго гэтага. Скажу яшчэ і пра раннія шлюбы. Сёння ў нас ужо лічыцца, што дзяўчына ў 25 гадоў — старая дзева. Карацей кажучы, шлюб сёння вельмі памаладзеў. Хлопцы жэняцца ў 18—20! Якія з іх мужчыны, якія з іх бацькі! Вось і не вытрымліваюць яны і іхнія яшчэ больш маладыя сяброўкі сямейных нагрузак, цяжару клопатаў і праблем, вырашаць якія не ўмеюць і не прывучаны, бо дагэтуль жылі за спінамі ці наогул на шыях бацькоў.

**Генадзь СМАГАРЖЭЎСКІ, суддзя:**

— Прадоўжу тое, пра што гаварыў Аляксандр Сільвестравіч. Мы, напэўна, сапраўды не вытрымалі перагрузак, так бы мовіць, цывілізацыі. Усё рваліся ў Еўропу, усё глядзелі на Захад, а там жа не толькі тэхнічны прагрэс і эканамічна-сацыяльныя даброты, але і разгул жорсткасці, бездухоўнасці. І што? Па тых самых разводах мы даганяем або нават і пераганяем Амерыку. І самае жахлівае ў тым, што ў нас ніхто ўжо і не абураецца гэтым. Шмат разводаў? Дык гэта ж, маўляў, натуральны, заканамерны працэс, у нас жа свабода асобы: хочаш — жаніся, хочаш — разводзься. Прапаганда жорсткасці, насілля, разбэшчанасці ў сродках масавай інфармацыі амаль адкрытая. А зірніце на кніжныя прылаўкі. Чым яны запоўнены? Хто гэта кантралюе? У краіне, якая лічылася самай кніжнай краінай,

*Ларыса і Мікола працуюць разам на Камароўскім рынку: яна прадае рыбу, ён — падвозіць, падносіць. Зарабляюць добра. Маюць двух сыноў-пагодкаў: пяці і чатырох гадоў. Мікола сістэматычна ўжывае спіртныя напоі. Нап'ецца — робіцца запальчывым, злосным, жорсткім, б'е Ларысу і дзяцей, не дае спуску жончыным маці і брату. Пагражаў жонцы нажом, ганяўся за ёй з шылам, душыў. Неўраўнаважаны, страшэнна раўнівы чалавек. У дадатак — брыдкаслоўіць. Даведаўшыся, што Ларыса падала на развод, на вачах у дзяцей пачаў вешацца. Далейшае сумеснае жыццё стала немагчымым.*

(Працяг на стар. 14)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## САКРЭТНАЯ КАМЕДЫЯ ПАСЛЯ П'ЯНЫХ СНОЎ



**29 лютага ў Палацы Белсаўпрофа адбылося "Таемнае спатканне". Сакрэтная камедыя. Такую мог прыдумаць ды выкласці адметнаю моваю "Жэстаў" (пантамімы) толькі Вячаслаў Іназемцаў. Перадусім натхніўшыся вобразамі італьянскай камедыі дэль артэ ды работамі Обры Бёрдслея, англійскага графіка мінулага стагоддзя. Важна й тое, што спектакль для нашай публікі ўсё яшчэ ўяўляе сабою самы сапраўдны сакрэт: скончаны ён быў летась, у 1995 годзе, ды паказаны... у Патсдаме, Мюнхене, Дрэздэне, Бурхаўзене і яшчэ, і яшчэ, — тамсама, тамсама... І толькі ў апошні лютаўскі дзень "рассакрэціўся" перад беларускімі гледачамі. З прычыны... атрымання сцэны. На адзін паказ.**



**Паводле Вячаслава Іназемцава, спектакль "Таемнае спатканне" прадстаўляе нам няўстойлівасць жыццёвых форм. Мяняюцца месцы дзеяння, часы, эпохі, вобразы, пол герояў, нават жанр самога спектакля рызыкуе зрабіцца проста супрацьлеглым. А перш як адсвяткаваць на радзіме прэм'еру, "Жэст" паказаў ужо знаёмы ды любімы гледачам спектакль "Традыцыйная кухня вострава Руку", — 28 лютага. Проста як у сне... Або ў снах... п'янага клоўна, якія вызначылі жанр другога спектакля.**

**Нашы сны. Традыцыйныя, як кухня вострава Руку. "Таемнае спатканне" з імі — толькі два дні. Толькі два разы. І — у традыцыйную й сакрэтную невядомасць. Да наступнага атрымання сцэны на радзіме.**

**Ж. Л.**

*На здымку: сцэны са спектакля "Таемнае спатканне".*

## ВІНШАВАННІ ПРЫМАЕ "ЗАРАНКА"

**На ўсю Беларусь вядомы народны ансамбль народных інструментаў Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці Гомельскага абласнога ўпраўлення адукацыі, якім кіруе знакаміты музыкант Б. І. Давыдаў. Гэты творчы калектыў з'яўляецца лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў, усесаюзных фестываляў, выступаў не толькі перад землякамі, а і ў Расіі, Германіі, Францыі, Аўстрыі, Польшчы, на Украіне... І ўсюды артыстаў суправаджаў поспех.**

**"Заранцы" споўнілася 25 гадоў. Гэтаму юбілею ў Гомелі быў прысвечаны ўрачысты вечар. Калектыў цёпла віталі калегі — музыканты, прадстаўнікі грамадскасці. А "Заранка" дала святочны канцэрт.**

**А. ШНЫПАРКОЎ**

# "ЧЫМ З П'ЯНІЦАМ ЖЫЦЬ, ЛЕПШ У ПЯТЛЮ..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

самай чытаемай, зачыняюцца кнігарні. У Мінску, напрыклад, зачынены ажно 33 кніжныя магазіны і аддзелы. Затое адчыняюцца сэксшопы, піўныя, начныя кабарэ, гульневыя дамы, кавярні, бары, што, вядома ж, не спрыяе ўмацаванню сям'і. А што такое разведзеная пара? Гэта, адназначна, бяда грамадства. Дзеці засталіся без бацькоўскай ласкі, строгасці і патрабавальнасці, яны вырастаюць чэрствымі, жорсткімі. Адной маці часта не пад сілу як след выхаваць дзяцей, найперш сыноў. У апошнім выпадку ёй не стае проста ўмення. Разведзеныя людзі, асабліва калі ўжо ў сталым веку, дажываюць як правіла ў адзіноце, нешта шукаюць, намагаюцца знайсці, ды знайсці хоць што-небудзь, не кажучы ўжо пра лепшае, не могуць. І яшчэ. Мы сёння часта гаворым пра рыначную эканоміку. Але ж, здаецца, многія проста не разумеюць, што азначае гэтае словаспалучэнне. А ўжо ў школах дзеці трацяць прытомнасць ад недаядання, многія бацькі не могуць купіць дзецям адзення, цукерак, кніжак. Затое дзеці маюць магчымасць днямі глядзець сексуальныя перадачы. Кніжкі адышлі на другі план, ніхто іх не прапагандуе, пра іх наогул не гавораць. Паўсюль гавораць пра грошы, рынак, працэнты ды абменныя курсы. Грамадства робіцца ўсё больш бездухоўным і бяздушным і ўсё больш бедным матэрыяльна. Пяць-шэсць працэнтаў шыкуюць, а восемдзесят працэнтаў не дацягваюць ад зарплаты да зарплаты. У сям'ю прыходзіць адна газета, ды і то далёка не ў кожную, бо 60 працэнтаў сем'яў не выпісваюць наогул нічога. Людзі перасталі купляць кнігі, часопісы, не цікавяцца падпіснымі выданнямі, не гавораць пра мараль і духоўнасць. Затое шмат гаворыцца пра веру, рэлігію, Бога. Што ж, няхай сабе, толькі здаецца, што і вяртаць веру тымі ж метадамі, якімі яна выкарчоўвалася калісьці, таксама нельга. Праблема разводаў складаная і злабадзённая ва ўсім свеце, а ў нас яна набывае асаблівую вастрыню і нават трагічнасць...

*Святлана пяць апошніх гадоў не працуе — звольнена за прагулы. Надараюцца выпадковыя заробкі ад продажу семак на вакзале. Дачцэ Ірыне 11 гадоў. Святлана не варыць есці, не мые бялізны, не прыбірае ў хаце. Перыядычна вяртаецца дадому п'янай, учыняе скандалы. Часта наогул не начуе дома, не тлумачачы, дзе была. Пастаўлена на ўлік у нарколага. Дачка не любіць маці, саромеецца яе, бо яе, п'яную, бачаць аднакласнікі і настаўнікі. Ігар — Святланін муж — падаў на развод. Ён просіць пакінуць яму на выхаванне дачку. Суд задаволіў яго просьбу.*

Вось такая адбылася гаворка. Вось што давялося пачуць ад работнікаў толькі аднаго мінскага суда. Будзённая, звычайная з'ява па імені "скасаванне шлюбу" набыла ў аповядах суддзяў шматстайнае, трывожнае і балючае гучанне.

Пракаментаваць гэты нечаканы "круглы стол" я папрасіла доктара філасофскіх навук, сацыёлага **Сяргея ЛАПЦЁНКА**. Сяргей Данілавіч, наш вядомы спецыяліст па пытаннях сям'і і шлюбу, сказаў:

— Скасаванне шлюбу — гэта ўжо фініш сям'і. Варта, бадай, сказаць колькі слоў і пра старт яе, наогул пра жыццё. У нас. У навуковым плане, не так ужо і шмат даследаванняў праводзіцца па гэтых праблемах, бо няма сацыяльнага заказу. Нават у сусветны год сям'і, якім быў абвешчаны 1994 год, было больш дэкларатыўнасці, чым пранікнення ў сэнс гэтай справы. І ўсё, як і ў былы добры савецкі час, зводзілася да паказальных мерапрыемстваў — бралі дынастыі, бралі розныя пакаленні шчаслівых сем'яў, выступалі дзяржаўныя кіраўнікі і на гэтых прыкладах спрабавалі навучыць усіх астатніх. Я быў членам Міжнароднага камітэта ад нашай краіны па арганізацыі правядзення сусветнага года сям'і — урадавага, падкрэслю, камітэта. Я звяртаў увагу на тое, што паказухай займацца не трэба, што было б значна лепш, каб мы правялі грунтоўнае навуковае даследаванне праблем сям'і. Урад знайшоў тады, у 1994 годзе, сродкі, 2,7 мільёна тыхчасовых рублёў, і мы прапанавалі тэму: "Сям'я ў Рэспубліцы Беларусь: стан, праблемы і перспектывы". Мы ахапілі 1890 сем'яў розных пакаленняў. Да 5 гадоў шлюбу было 196 сем'яў, ад 5 да 10 гадоў — 480 сем'яў, рэшта — са стажам больш чым 10 гадоў. Мы прааналізавалі, так бы мовіць, жыццё сем'яў сталіцы, усіх абласных гарадоў, аднаго раённага цэнтра ў абласцях і адной вёскі ў раёне. І таму карціна, можна сказаць, склалася аб'ектыўная. Па-першае, людзі ўвогуле ўсё ж не супраць сям'і, а за сям'ю. Больш за тое, мы прасочвалі матывы ўступлення ў шлюб на працягу 30 гадоў, маем намер і далей вывучаць каштоўнасныя арыентацыі моладзі. Дык вось, апытаўшы больш за 3 тысячы юнакоў і дзяўчат, студэнтаў ВНУ, мы высветлілі, што на першае месца яны ставяць каханне, шлюб, сям'ю, сямейны дабрабыт, добрае жыццё. Але, на вялікі жаль, такая каштоўнасць, як працавітасць, знаходзіцца недзе на 7—9 месцы, а вучоба — у нашых студэнтаў-гуманітарнікаў — на 5—7 месцы, а ў студэнтаў тэхнічных ВНУ — ажно на 12 месцы. Якое перавернутае "зерцала": жыць хацелі б шчасліва і заможна, а вось працаваць не хочацца! У студэнтаў камерцыйных ВНУ адносіны да вучобы значна лепшыя, там яна ставіцца на 2—3 месца пасля асабістага шчасця.

Значыць, так: ідэал кахання, шлюбу і сям'і ў нас даволі высокі, і гэта адпавядае традыцыям і менталітэту беларускага народа. Аднак жа гэта — ідэал. А якой яна, сям'я, будзе рэальна? Яна будзе такой, якой яе бачаць ён і яна, у залежнасці ад таго, на што яны арыентуюцца, што яны чакаюць ад шлюбу і сям'і. Звернемся да адказаў нашых рэспандэнтаў. Што яны лічаць мэтай для стварэння сям'і? На пытанне: "Што з'явілася матывам уступлення ў шлюб?" адказы былі такія: "палкае каханне" — 33,5 працэнта; "упэўненасць у тым, што сямейнае жыццё дасць нейкія добрыя перавагі" — каля 24 працэнтаў; "асаблівых матываў не было, проста прыйшоў час уступаць у шлюб" — 19,3 працэнта; "духоўная блізкасць" — 9,7 працэнта; "жаданне мець дзіця" — 5 працэнтаў (тут маецца на ўвазе "шлюб наўздагон"); "боязь быць адзінокім (адзінокай)" — 4 працэнты. Такія матывы, як "жаданне палепшыць матэрыяльнае становішча", ці "ўплыў бацькоў", назвалі 2 працэнты рэспандэнтаў. Як бачым, матывы жыццёвыя, але ж на каханне прыпадае толькі 34 працэнты, а рэшта ляжыць ніжэй гэтай вялікай духоўнай, душэўнай патрэбы аднаго чалавека ў другім чалавеку. Таму можна думаць, з сумам, вядома, што з цягам часу каханне гэтае ў сем'ях узрастаць будзе не надта. З другога боку, возьмем такі момант. На пытанне: "Вы пражылі ў шлюбе 10—15 гадоў. Калі б была магчымасць зноў уступіць у шлюб, ці згадзіліся б вы ўзяць яго са сваёй жонкай, зноў звязаць свой лёс са сваім мужам?" 70 працэнтаў апытаных адказалі станоўча. На пытанне: "Ці ўзрастае духоўная блізкасць паміж мужам і жонкай з цягам гадоў?" станоўча адказалі 65 працэнтаў апытаных. Тое ж сама адносна ўпэўненасці ў перавагах сямейнага жыцця — 61 працэнт станоўчых адказаў. Інакш кажучы, каштоўнасць сям'і і шлюбу досыць высокая. Цікавая і такая лічба. Мы спецыяльна не выбіралі тыя 1890 сем'яў, якія вывучалі, але толькі 190 з іх былі створаны пры паўторным шлюбе.

*Людзе — 30 гадоў, маці дзвюх дзяўчынак, выхоўвала іх адна. Муж трагічна загінуў чатыры гады назад. Люда пазнаёмілася на братавым вяселлі з Іванам. Даведаўшыся, што ў яе дзеці, не адступіўся, а наадварот, штодня сустракаў пасля работы, падвозіў дадому, кляўся ў каханні, абяцаў замяніць дзецям бацьку. Люда паверыла. Зарэгістравалі шлюб, прапісала да сябе ў кватэру. Паўгода жылі быццам шчасліва. А пасля пачаліся п'янкі, скандалы. Дадому прыходзіў пасля паўночы, сядытады наогул не начаваў дома, грошай не даваў. Люда падала на развод. Іван вінаватым сябе не прызнае, маўляў, у яго такая работа — куды шэф, туды і ён, патрабуе размену кватэры.*

А цяпер звернемся да канфліктаў. Сямейных, натуральна. Па-першае, канфлікты бываюць кароткатэрміновыя (65 працэнтаў рэспандэнтаў) і працяглыя (27 працэнтаў). 9 працэнтаў апытаных назвалі канфлікты не проста сваркамі, а скандаламі. 86 працэнтаў рэспандэнтаў сцвярджаюць, што ім самім удаецца прыходзіць да згоды пасля канфліктаў, без дапамогі пабочных людзей. Узнікаюць сваркі і канфлікты па самых розных прычынах. "Праблемы выхавання дзяцей" — 43 працэнты апытаных, "рэўнасць" — 35 працэнтаў, "размеркаванне хатніх абавязкаў" — 34 працэнты, "матэрыяльныя цяжкасці" — 29 працэнтаў, "розныя дробязі" — 43 працэнты. Само сабою, бесканфліктных шлюбаў не бывае. Важна, як яны вырашаюцца. У сем'ях, дзе даволі высокі маральны, духоўны ўзровень, і спрэчкі носяць, так бы мовіць, культурны ўзровень, яны не вельмі закранаюць дзяцей і іншых сямейнікаў. А вось у тых сем'ях, дзе пануе атмасфера бездухоўнасці, дзе частая госця — чарка, там сваркі праходзяць зусім іначай, яны практычна не канчаюцца, набываюць абвальны характар і канчаюцца драматычна, прыводзяць да распаду шлюбу. Праўду кажуць суддзі: асноўная прычына гібелі сям'і — п'янства. 47 працэнтаў рэспандэнтаў называюць менавіта п'янства прычынай скасавання шлюбу, а яшчэ — грубіянства, няўменне ўладкаваць сямейны парадак і дабрабыт. Вядома ж: калі чалавек п'е, ён не можа як след клапаціцца аб дабрабыце сям'і, ён наўрад ці будзе лагодным і ласкавым мужам і бацькам. Сярод іншых прычын разводаў апытаныя называюць: "несупадзенне характараў" — 28 працэнтаў, "умяшальніцтва бацькоў" — да 20 працэнтаў, "адсутнасць жыллёвых умоў" — 15 працэнтаў, "нелюбоў да дзяцей" — 15 працэнтаў.

Адносна першай прычыны — "несупадзенне характараў" — я хацеў бы заўважыць, што гэта нейкі літаратурны афарызм, ці што. Характары, як правіла, і не бываюць аднолькавыя. Заўважна нават, што лепш, дружней жывуць якраз людзі з рознымі, непадобнымі характарамі. Пэўна, яны проста саромеюцца назваць сапраўдную прычыну няўжыўчывасці і спасылаюцца на славутае "несупадзенне характараў". Бывае, скажам, сексуальная несумяшчальнасць, гэтую прычыну (часцей ананімна) называюць недзе 5—8 працэнтаў рэспандэнтаў; але калі муж і жонка маюць справу з сексапатолагам, то гэтая прычына — сексуальная несумяшчальнасць — указваецца да 60 працэнтаў. Проста тое, што можна сказаць урачу па сакрэце і пашукаць у яго парады, не можа быць прадметам абмеркавання для шырокага кола асоб.

Колькі слоў пра тое, як уплывае на характар шлюбных адносін дашлюбная сексуальная практыка. З аднаго боку, для сённяшніх маладых людзей праблемы цнатлівасці быццам не існуе. З другога боку, калі дзяўчына, як кажуць, пайшла па руках, дык яна ўсё ж асаблівага захаплення і жадання звязаць з ёй лёс у хлопцаў не выклікае. Колішняя рамантычнасць адносін юнака і дзяўчыны, асабліва на пачатку знаёмства і дружбы, сёння знікае. Пры неасцярожным дакрананні хлапечай рукі да дзяўчыны сёння яго ўжо не "б'е токам". Тым не менш, прыроду чалавека не адменіш і не падманеш, і хлопцы і дзяўчаты паранейшаму прагнуць менавіта кахання, а не сексуальнай блізкасці. Розныя сексуальныя кіна- і відэастужкі — для таго, каб глядзець, а не для таго, каб пабачанае рабіць спосабам і мераю жыцця. Карацей кажучы, трэба рыхтаваць моладзь да шлюбу, прывіваць маральныя, духоўныя каштоўнасці сямейнага жыцця, уменне вырашаць канфлікты, весці хатнюю гаспадарку, прыгожа жыць у сям'і.

Апошнім часам павялічылася скасаванне шлюбаў і ў сувязі з пагаршэннем матэрыяльнага становішча. Дзесяць-пятнаццаць гадоў назад маладажоны рабілі націск на

духоўныя катэгорыі сямейнага жыцця і абавязковай зарукаю шчасця называлі дзіця, дзяцей. І дзеці праз пэўны час абавязкова з'яўляліся, і ў маладой сям'і з гэтым не было ніякіх праблем. Цяпер жа назіраецца нешта зусім ненатуральнае: маладажоны не спяшаюцца абзаводзіцца дзецьмі, гадамі жывуць самі па сабе: маўляў, не пракормім, не зможам ні апранаць, ні вучыць. Гэта вельмі трывожная тэндэнцыя. Гэта можа прывесці да таго, што не будзе абнаўлення нацыі. Насельніцтва Беларусі пачынаючы з 1994 года перастала расці. Дэмографы падлічылі, што калі гэтак будзе і надалей, дык праз 340 гадоў наша нацыя знікне.

У сувязі з гэтым сямейныя праблемы набываюць асаблівую вастрыню і надзённасць. Іх трэба вырашаць і ў агульнадзяржаўным маштабе, і на ўзроўні сямейнага клімату, скажам так. Сямейныя справы — гэта не толькі справы асабістыя, а і справы агульнаграмадскія, дзяржаўныя. Да 1993 года колькасць разводаў у краіне была больш-менш стабільная, пасля ж рэзка павялічылася — адразу на 12,5 працэнта. Працягласць шлюбнага жыцця складае сёння ў нас недзе 34 гады. Да сярэбранага вяселля дажываюць 63 працэнты сямейнікаў, да залатога — 22, да брыльянтавага — 4 працэнты. У скасаванні шлюбаў мы папракаем звычайна моладзь, аднак жа гэта не зусім так. Сапраўды, першая хваля разводаў адбываецца ў першыя 5 гадоў сямейнага пражывання мужа і жонкі — на гэты час прыпадае каля 20 працэнтаў разводаў. Другая высокая хваля — пасля 20—25 гадоў сумеснага жыцця. А самы высокі працэнт разводаў прыпадае на час пасля 7—9 гадоў сямейнага жыцця.

Дарэчы, многія, разышоўшыся, шкадуюць неўзабаве, што зрабілі так, за гады сумеснага жыцця пераканаліся — сямейнае жыццё больш здаровае і шчаслівае, нягледзячы нават і на сваркі. Гэта пацвярджае і медыцына: сямейныя людзі больш здаровыя і псіхічна, і фізічна, яны жывуць намнога даўжэй, чым адзінокія.

Што да фіктыўных разводаў, дык сацыялогія сведчыць, што колькасць такіх разводаў апошнім часам скарацілася. Раней было больш прычын на гэта: строгае дзяржаўнае размеркаванне выпускнікоў тэхнікумаў і інстытутаў, жыллёвая чарга і г.д. Сёння ж гэтыя прычыны адпалі, таму і скасаванні шлюбаў па гэтых прычынах таксама адпалі.

Слушна разважаюць суддзі і пра матэрыяльнае расслаенне грамадства. Сапраўды, у нас паявіліся багатыя людзі, якія меняюць з багаццем звязваюць сваё шчасце, у тым ліку і сямейнае. На жаль, яны памыляюцца. Грошы грашыма, але ж недарэмна кажуць, што душа і песні просіць, клопатаў пра дзяцей, ласкі, увагі, цеплыні. Усё гэта грашыма не заменіш.

Цяжкасці, праблемы сям'і — гэта цяжкасці, праблемы грамадства. Пакуль не палепшыцца сацыяльна-эканамічны стан у краіне, не будзе ладу належнага і ў сям'і. Трэба, проста неабходна, каб людзі пачалі па-сапраўднаму працаваць. Не гандляваць, не перапрадаваць, а — нешта ствараць. Перараэмеркаваннем мы займаліся шмат гадоў, яно, на жаль, не прывяло нас у царства шчасця. Сям'я павінна адчуваць падтрымку дзяржавы. Не на танкі і самалёты павінна дзяржава выдаткоўваць грошы, а на сям'ю. Кіраўнікі на самым высокім узроўні павінны зразумець, што моц нацыі, моц дзяржавы залежыць ад моцы сям'і. Вось тады і грошы знойдуцца. Хоць бы тыя, што сёння трацяцца на шыкоўныя прэзентацыі, банкеты, фестывалі, конкурсы, іншыя шматлікія ды, на жаль, не надта абавязковыя мерапрыемствы. У свой час у нас быў прыняты добры закон аб дапамозе сем'ям, я сам быў у камісіі, якая яго распрацоўвала. Ён быў разумны: усім сем'ям, у якіх ёсць дзеці, давалася дапамога. Сёння ж ён зведзены да нуля: так "мудра" падлічаны сярэдні даход грамадзян нашай краіны, што нікому дапамога непатрэбна, усе атрымліваюцца забяспечанымі. Законы ў нас носяць нейкі прапагандысцкі характар, а не рэальны. Сям'я не можа і цукерачны купіць дзіцяці, а на экранах бясконцая рэклама снікерсаў і іншых спакус. Калі сям'я не ў стане накарміць дзіця дома, яго павінны накарміць у садзіку, у школе. Дзяржава павінна паруціцца і аб тым, каб дзеці нашы мелі і цацкі, і кніжкі. А бацькі, у сваю чаргу, павінны памятаць, што як бы дзяржава ні клапацілася аб іхніх дзецях, іх маральнае, духоўнае выхаванне — справа, клопат бацькоў. Утрыманскія настроі бацькоў, як і раўнадушша дзяржавы, аднолькава адмоўна ўплываюць на маладыя пакаленні, на будучыню краіны.

На гэтым я і паставіў бы кропку ў сваім каментарыі да таго, што сказалі вам суддзі Фрунзенскага раённага суда горада Мінска.

**Выслухала і занатавала**
**Марыя ГІЛЕВІЧ**

# ДЗЕЛЯ ДАБРА, ЧЫСЦІНІ І ГАРМОНІІ

Колькі месяцаў таму на канцэрце Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі ў філармоніі пашчасціла мне выпадкова пазнаёміцца з мастачкай, што працуе над касцюмамі для гэтага ансамбля — Айшай Александровіч. Прагаварылі мы з ёю усе два аддзяленні канцэрта.

— Да новай праграмы я зрабіла эскізы касцюмаў для аркестра Дзяржаўнага ансамбля танца, бо маральна касцюмы-фракі ўжо састарэлі і патрабавалі дапрацоўкі. "Апрануць" аркестр было даўняй маёй марай, але вобраз акрэсліваўся нялёгка — праз шматлікія замалёўкі і накіды. Да таго ж, я мусіла выкарыстаць яшчэ і вытканыя ўстаўкі, што былі набыты загадзя. Ткацтва хораша спалучаецца з чорным колерам эскіза, а чорны колер падкрэслівае ўрачыстасць, класічнасць мужчынскага касцюма. Натуральна, што я звярнулася да канструкцыі і форм адзення нашых продкаў. Таму праз усе касцюмы праходзіць адзіны модуль мантыі, пры гэтым кожная аздоблена па-свойму: альбо сілуэтамі сярэднявечнай вежы, альбо знаёмымі ўсім ромбікамі-зубчыкамі. Адно заўважу, гэта не дакладны гістарычны касцюм, ён творча перапрацаваны, трансфармаваны пад сучасны стыль адзення.

Я ставіла за мэту стварыць як бы абагулены вобраз, у якім бы спалучаліся і народныя рысы (праз арнамент, ткацтва), і гістарычна-духоўныя (праз упрыгожанні, ланцужкі паскаў, каўнеры ды іншыя дэталі адзення), і акадэмічная строгасць строю для афіцыйных выступленняў ансамбля. Таму я дасканала распрацоўвала эскізы і графічныя кампазіцыі з фонам з сілуэтаў замкавых вежаў, з аркушамі старажытных світкаў. І гэта не даніна модзе, а пагружэнне ў атмасферу пэўнай гістарычнай эпохі. Доўгі час на сцэне нашы артысты выглядалі прымітыўнымі сялянамі, стваралі вобраз недарэчных, рахманых небарак, што амаль асэнсавана падкрэслівалася кароценькімі кашулькамі, лапцямі і г.д. Я лічу, што трэба ўзвышаць унутраную годнасць кожнага чалавека. Нездарма з даўніх часоў лічылася, што доўгае адзенне адзначае высакароднасць паходжання. І калі артыст на сцэне ў маім касцюме адчуе сябе прыгожым, то ягоная энергія праз музыку і танец перадасца гледачу, і тым самым узбагаціць скарбонку дабра, чысціні і гармоніі. Я ў гэта веру і ўпарта імкнуся да аднаўлення, у першую чаргу, душ чалавечых. А яшчэ я лічу, што жанчына ўратуе свет. А таму вобраз жанчыны ў маіх касцюмах надзвычай лёгкі, чысты, светлы.

**— Відаць гэта па касцюмах цымбалістак аркестра і ў танцы "Церніца", "Каралева лёну". Апошняя назва цікавая, але як яна тлумачыцца?**

— "Каралева лёну" — гэта мая працоўная назва. Пастаноўка танца і строй не ставілі сваёй мэтай перадаваць дакладна працэс апрацоўкі лёну. Прыгожы, павольны карагод спадабаўся мне на першай рэпетыцыі. Я зрабіла некалькі накідаў і гэта падштурхнула мяне да стварэння апошняга варыянта эскіза. Выбар тонкіх, празрыстых тканін — не льняных, а сінтэтычных — быў зроблены свядома, бо гэта найбольш сцэнічны і практычны матэрыял. Касцюмы таксама хутка зношваюцца, як і паўсядзённая вопратка любога чалавека. Але самае галоўнае тое, што на сённяшні час тэхналогія вырабу тканіны з лёну страчана, я маю на ўвазе той спосаб, які існаваў яшчэ ў старажытным Егіпце. Матэрыя была такая тонкая, што прасвечвалася праз 20 слаёў. Каб перадаць гэту якасць лёну, я выкарыстала сярэбраную парчу — на гарсэціках, сплеценых пад класічнае палатнянае пляценне, што нагадвала пляценне з саломкі, лёну. Серабро — гэта наш беларускі лён, лён не адбелены, гэта нашае галоўнае багацце, якім так цікавяцца ва ўсім свеце. Для поўнай гармоніі я зрабіла яшчэ і капялюшыкі — сонечныя праменьчыкі ад якіх адлюстроўваюцца ў аздабленні гарлавін кашуль, што прасвечваюцца пад прыгожа празрыстым вышытым каўнерыкам. Але самае галоўнае, што мне хацелася прадэманстраваць — гэта вышытыя валаны спадніц, якімі выканаўцы актыўна карыстаюцца ў танцы. Не адразу я прыдумала малюнак вышыўкі. Хацела, каб ён арганічна спалучаўся з ідэяй касцюма. Спрабавала розныя варыянты — усё было не тое. Знайшоўся той адзіны, што складаўся са стылізаваных вобразаў валошак, каласкоў, кветачак лёну. Лёгкай хвалепадобнай лініяй ён аздобіў край валана на спадніцы, як бы дапамагаючы падкрэсліць рухі выканаўцаў. На жаль, па тэхнічных прычынах не давялося давесці да канца ідэю і паказаць прыгажосць малюнка і вышыўкі да гледача, як хацелася мне. Такія маральныя выдаткі неаднойчы даводзіцца перажываць мастаку.

**— А што замінае, каб усё было як хацелася?!**

— Гэта і матэрыяльныя перашкоды, бо вы ведаеце, колькі ўсё каштуе, а грошай не так ужо багата даюць на касцюмы. Гэта і тэхнічны бок — вытворчасць магла быць у лепшым стане. Гэта і прафесійная недасканаласць швачак, але самае галоўнае — талерантнасць мастака. Я не раз давала сабе зарок рабіць толькі так, як задумала, і не паддавацца на ўгаворы. Калі вытрымлівала, што не так лёгка было зрабіць, вынік выдатны. А калі згаджалася, ішла на спрашчэнне, то бачыла на канцэрце яўныя хібы касцюмаў, ад гэтага і асабістая незадаволенасць, хоць у гледачоў ніякіх папрокаў не было. Кожная творчая работа — гэта шмат недаспаных начэй, перажытых, перадуманых варыянтаў, знаходак. А самае галоўнае, што ўжо пашыты касцюм не пераробіш, не перакроіш, як эскіз ці карціну-замалёўку.

**— Як доўга вы ствараеце свой касцюм, Айша?**

— Па-рознаму. Залежыць ад натхнення. Не лічачы эскізаў, толькі шыццё касцюмаў — ад паўгода да года. Бо мастак-аўтар вядзе гэтую работу да самага канца. А ганарара хапае адно што на пару кніг... Трымаешся на любові да мастацтва, на нейкай апантанасці і верыш у тое, што прыгажосць уратуе свет. А яшчэ я мару, што наша роднае Міністэрства культуры зверне ўвагу на мастакоў народна-сцэнічнага касцюма, бо не так і многа нас, тых. хто не пайшоў у камерцыю. На XV з'ездзе мастакоў нам шмат хто абяцаў падтрымку. Вось і чакаем яе. Бог дасць, дачакаемся!

**— Я ўсё ж такі хачу вярнуцца да канцэрта. Як нарадзілася ідэя цудоўных касцюмаў з "Вечарыны"?**

— А было гэта так. Прыходжу я на рэпетыцыю ў ансамбль, Валянцін Уладзіміравіч Дудкевіч дае мне паперу, аловак і кажа: "Сядай, будзем працаваць". Першыя штрыхі яшчэ не гатовага танца мяне зацікавілі, і пакуль ішла рэпетыцыя, я замалёўвала вобразы, якія нараджала ў маёй галаве музыка і розныя "па". Вобразы вобразамі, але задача была складаная: выкарыстаць ужо гатовы матэрыял, які застаўся ад папярэдніх касцюмаў (народнае ткацтва). Світкі мужчын павінны быць чорныя з маліnavай падкладкай (у танцы былі такія рухі, пры якіх была відаць падкладка). Дома зрабіла першыя эскізы і засталася незадаволена сабой. Трэба было знайсці нейкую іскрынку, каб было за што зачапіцца. Доўга шукала, перачытала шмат літаратуры і натрапіла на 20-я гады. Аб'ядналa НЭП з сучаснасцю, атрымалася актуальна. Цяперашні час нечым нагадвае той, калі мастацтва на Беларусі было адметным — згадайце Віцебскую школу мастацтваў. Спалучыўшы ў касцюмах жанчын мадэрн 20-х гадоў з народным ткацтвам, я нібы стварыла для сябе вобраз тагачаснай беларускай модніцы. Тым больш, што на сцэне, ды і ў жыцці цяперашнім, я не сустракала касцюмаў 20-х гадоў. Не хацелася паўтараць стэрэатыпныя сілуэты. Дапаўнялі касцюмы белыя футравыя каўнерыкі (тыпу боа) і апушкі на рукавах. Гэтыя касцюмы дэманстраваліся на тэлебачанні, а потым на адкрыцці выставы мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання.





**— Вы даўно працуеце ў ансамблі, пахваліцеся яшчэ і іншымі вашымі касцюмамі.**

— Іх было шмат. Гэта адметныя касцюмы да танцаў "Кабеты і жаўнеры", "Вясёлыя каляды", "Свята", "Лявоніха", "Полька-Янка", "Гумарэска", "Беларускі сувенір", "Кола жыцця", "Крыжачок", "Кадрыля на зэдліках", "Бульба", "Карагод", "Каўтуха" — усіх не пералічыць. Эскізы ж да гэтых касцюмаў зберагаюцца ў Тэатральным музеі Мінска, Уздзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі і іншых.

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымках: касцюмы да танца "Бульба"; эскіз касцюмаў да танца "Карагод".*

# ПРА ДЗЯДЗЬКУ КАНДРАТА

Кандрат Кандратавіч Крапіва (Атраховіч) — народны пісьменнік Беларусі, славуты драматург, байкапісец, гумарыст і сатырык, вучоны, акадэмік, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Дзяржаўных прэмій. Для мяне ён яшчэ — і родны, блізкі чалавек, ён — мой дзядзька. Я змалку любіла яго, захаплялася ягонымі творамі і ім самім. Мяне здзіўляла яго выключная памяць, працаздольнасць і працавітасць, акуратнасць ва ўсім, культура паводзін, уменне падтрымліваць гутарку з любым чалавекам, гатоўнасць дапамагчы.

Часта ўспамінаю сваё дзяцінства, далёкі ўжо час, калі мы зімовымі вечарамі ўсёй сям'ёю збіраліся за сталом і пад скуголенне завірухі за вокнамі і патрэскванне лучыны *слухалі бацьку, які чытае вершы* і байкі К. Крапівы або раман "Мядзведзічы". Бацька чытаў нам кніжкі і іншых пісьменнікаў, але найчасцей — кніжкі дзядзькі Кандрата. Байкі і вершы яго мы, дзеці, ведалі на памяць, дэкламавалі навыперадкі, каб атрымаць ад бацькі цукерку, пячэніну ці якую цацку. Бацька, Іван Паўлавіч, быў першым нашым настаўнікам і выхавацелем. Дзякуючы яму я яшчэ да школы ўмела чытаць і любіла вершы і байкі свайго дзядзькі.

Імя Кандрата Кандратавіча гучала ў нашай хаце заўсёды, яго згадвалі з вялікай павагай, любоўю і цеплынёй.

Кандрат Міхайлавіч Атраховіч — бацька Кандрата Кандратавіча — мой дзед. Мы ўсе вельмі любілі яго і паважалі. Зусім сівы, з доўгімі вусамі, але твар — маладжавы, прыгожы, хударлявы, рухавы, спрытны, працавіты. Дзякуючы яму, *сям'я жыла нябедна, на стале* заўсёды быў хлеб і скварка. У сям'і ён быў лідэрам, апошняе слова ў спрэчках было за Кандратам Міхайлавічам. Яго паважалі і лічыліся з яго парадамі і жыхары вёскі. Калі суседу патрэбна было зрабіць нешта важнае, той ішоў параіцца з Кандратам Міхайлавічам. Нізоўцы глядзелі, калі ён пачынае сеяць ці касіць сена, капаць бульбу ці жаць жыта. Усё рабілі ўслед за Кандратам Міхайлавічам і ніколі не памыляліся. Мая маці гаварыла: "Калі б бацьку даць такія веды, такую адукацыю, якую мае яго сын, то ён мо пайшоў бы і далей".

Любіў дзед свайго сына, ганарыўся ім, часта расказваў нам пра дзяцінства Кандрата і яго юнацкія гады, пра тое, як той пасвіў свіней і гусей, пазней араў і касіў. Кандрат Міхайлавіч марыў, каб сын стаў добрым гаспадаром на зямлі, хацеў прыдбаць яшчэ кавалак зямлі, пабудаваць хату сыну, бо старая малая і цесная для вялікай сям'і. З дочкамі — менш клапатаў: абы добрыя хлопцы знайшліся: дык пасаг знойдзецца. У Кандрата Міхайлавіча было дзве дачкі: старэйшая Ганна, вельмі падобная на брата, і Стэфка (мая маці), з твару таксама падобная на старэйшых брата і сястру, толькі ростам меншая.

Дзед расказваў нам, як добра вучыўся яго Кандрат, як цэлымі начамі пры газоўцы чытаў ён кнігі. На кнігі — маліўся. Пагнаў аднойчы свіней пасвіць і кнігу захапіў з сабою. Зачытаўся, а свінні — у агарод да суседа Тодара. Пахадзіла тады бацькава папруга па Кандратавым мяккім месцы. Гэта было ці не апошняе пакаранне сына такім спосабам.

Праз некаторы час Кандрат вучыцца ў мястэчку Узда ў гарадскім вучылішчы, затым у Стоўбцах. Даведаўся хлопец, што ў Койданаве ёсць добрая бібліятэка, і рушыў туды. Бацька ўжо не пярэчыў сыну, а ўсяляк дапамагаў яму: завязе яму на харчаванне мяшок бульбы, бохан хлеба, добры брус сала, сякую-такую капейчыну на кнігі. Кандрат Міхайлавіч зразумеў, што сыну лёсам наканавана другая дарога ў жыцці, што ўзляціць той высока, чаго стары бацька не мог і ўявіць сабе. І пакахаў сын не багатую, а бедную прыгажуню Алену, добрую і вясёлую нізоўскую дзяўчыну, якая стала яго жонкай, добрым сябрам на ўсё жыццё...

Нямала расказвала пра брата мама — Сцепаніла Кандатаўна. Яна была надзвычай рухавая, спрытная, працавітая. Я не памятаю, каб яна калі адпачывала — увесь час была ў працы. Мы кладзёмся спаць, а яна сядае за прасніцу; рана прачынаемся, а сняданак — ужо на стале. А трэба ж не толькі есці наварыць і бялізну *памыць, напрасці, наткаць* — трэба ж і скаціну дагледзець. Брата мама любіла, часта прыгадвала яго, расказвала, што ў маладым узросце Кандрат быў вялікім жартаўніком, вострым на язык. Яго смешныя гісторыі, жарты, анекдоты прыцягвалі да яго вясковую моладзь, хлопцы і дзяўчаты гуртам збіраліся ў хаце Атраховічаў.

Пад уражаннем гэтых аповядаў мы марылі аб сустрэчы са сваім знакамітым сваяком, а пакуль што ўсёй сям'ёй рагаталі, чытаючы яго байкі і сатырычныя вершы. Рагатала ўся вёска: і моладзь, і старыя дзядзькі, пасеўшы на прызбы, чытаючы свежую газету з новымі вершамі Крапівы.

Часам мы атрымоўвалі ад яго пісьмы, якія чыталіся ўслых усёй сям'ёй, пасылкі. Памятаю, як аднойчы атрымалі пасылку, у якой, сярод розных падарункаў, былі і валёнкі для дзеда Кандрата: мяккія чорныя валёнкі. Цікавы "лёс" тых валёнак. Кандрат Міхайлавіч не паспеў і знасіць іх, неўзабаве ён памёр — гэта здарылася ў 1939 годзе. Мы ўсе вельмі сумавалі па дзеду і бацьку. Мо з гэтае прычыны валёнкі не насілі ні баба Домна (трэцяя жонка Кандрата Міхайлавіча), ні мае бацькі. У гады вайны валёнкі разам з іншымі рэчамі закапалі, схавалі ад паліцаяў. А як вярнуліся з лесу ў вёску, дык не знайшлі ні кажухоў, ні палатна, ні валёнак. Пра кажухі і іншыя рэчы неяк забыліся, а вось валёнак усе шкадавалі — найперш таму, што гэта быў падарунак ад Кандрата Кандратавіча.



*К. Крапіва з сынам і ўнукамі на былой ВДНГ, 1972 г.*

*Фота Ул. КРУКА*

Упершыню я сустрэлася з дзядзькам у 1944 годзе. Прыехала ў Мінск са сваёй старэйшай сястрой Марыяй. Дзядзька з сям'ёй жыў тады на Маладзечанскай вуліцы ў трохпакаёвай кватэры аднапавярховага дома. Перад домам — чысты двор і невялічкі агарод з акуратнымі градкамі агуркоў і морквы. Я, здаецца, трошкі баялася гэтай сустрэчы, саромелася Кандрата Кандратавіча: у маім уяўленні гэта быў незвычайны, недасягальны чалавек. Дзядзька ж з Аленай Канстанцінаўнай сустрэлі нас ласкава, пачаставалі. Кандрат Кандратавіч прынёс з градкі і агуркі. Але на іх я нават не звярнула ўвагі, бо на стале было нямала розных прысмакаў, якіх я ніколі не каштавала. Дзядзька распытваў пра маці, пытаўся, кім я хачу стаць, дзе хачу вучыцца. Ён ухваліў маё жаданне стаць настаўніцай, бо і сам нейкі час працаваў настаўнікам. Алена Канстанцінаўна перадала падарункі нашай маці і ўсім дзецям. Я атрымала адрэз на паліто і шоўку на сукенку.

Я заўсёды буду ўдзячна Алене Канстанцінаўне і дзядзьку за іхнюю дапамогу мне ў гады маёй вучобы ў педвучылішчы. Нас было пяцёра ў маці, бацька загінуў на фронце, і жылося нам цяжка. Але дзякуючы іх дапамозе я была і адзета лепш за сваіх сяброvак, і не галадала. Я карысталася багатай дзядзькавай бібліятэкай, сустракалася ў ягонай хаце з цікавымі людзьмі: з пісьменнікамі, артыстамі. Часам дзядзька браў з сабою мяне ў тэатр ці кіно.

Аднаго разу студэнты запрасілі (праз мяне) Кандрата Кандратавіча на сустрэчу. Ён адразу *згадзіўся, хоць быў вельмі за*няты. Сустрэча прайшла цікава. Кандрат Кандратавіч расказаў, як ён працаваў настаўнікам, гаварыў, якая гэта важная і адказная прафесія, падзяліўся сваімі планамі і задумкамі на будучае, прачытаў некалькі сваіх сатырычных вершаў і баек. Студэнты былі ўзрушаны, уручылі госцю вялікі букет кветак, усёй грамадой правялі яго аж да самага дома на вуліцу Горкага.

Самыя шчырыя, цёплыя, душэўныя адносіны ўсталяваліся ў мяне з дзядзькам у апошнія гады яго жыцця. Мусіць, гора збліжае людзей. У вайну загінуў сын Кандрата Кандратавіча Барыс, у 1964 годзе памерла Алена Канстанцінаўна, а ў 1989 годзе — дачка Людміла. У мяне трагічна загінуў муж, у 1986 годзе на руках памерла маці, а ў 1990-ым пахавала я адзінага сына. Цяжка перажыць *такую трагедыю!*

Вялікае, шчодрае сэрца Кандрата Кандратавіча, яго стойкасць, мужнасць, любоў да людзей, разуменне жыцця ва ўсіх яго праявах падтрымлівалі і яго, і мяне. Мы разумелі адзін аднаго, былі патрэбны адно аднаму. У той час я была ці не адзінай нітачкай, якая звязвала яго з роднымі мясцінамі. Кожны раз пры сустрэчы ён пытаўся пра Нізок, пра людзей, якія жывуць там, пра тое, як справы ў калгасе, пра мясціны, якія асабліва былі дарагія для яго. Пра родную зямлю ён гаварыў вельмі цёпла, з вялікай любоўю і пяшчотай. Гэтая зямля дарвала яму жыццё, надзяліла яго вялікім талентам песняра Беларусі. Ён чэрпаў сілы з глыбокіх крыніц роднай зямелькі, жывіўся яе сокамі. Цікавіўся, як вучацца дзеці ў школе на яго радзіме, ці любяць яны беларускую мову, ці чытаюць кнігі беларускіх пісьменнікаў. У 1986 годзе ён перадаў у падарунак школе бібліятэчку кніг, некалькі кніг перадаў раённай бібліятэцы.

Кандрат Кандратавіч вельмі хацеў сустрэцца з нізоўцамі, пагутарыць з імі, пахадзіць па знаёмых сцежках, але немачы і хваробы прыкавалі яго да яго кватэры.

Тым не менш, ён не здаваўся перад старасцю. Дрэнна бачыць і чуе? Не бяда. На гэта знайшліся некія асаблівыя акуляры і навушнікі. А розум, памяць да канца заставаліся светлыя, ясныя. Не можа хадзіць? Дык да яго прыходзяць супрацоўнікі акадэміі: трэба ж закончыць гэтую вялізную працу над фундаментальнымі слоўнікамі.

З удзячнасцю і цеплынёй успамінаю Алену Канстанцінаўну. Яна была простая вясковая жанчына, не надта адукаваная (у маладосці скончыла медыцынскія курсы), але — прыгожая, вясёлая, вострая на язык, добрая гаспадыня. Яна *вельмі любіла і паважала мужа*, клапацілася аб ім. Яшчэ яна была вельмі добрая. Заўсёды ў іх хто-небудзь жыў са сваякоў і ўсім знаходзіўся прытулак, усім яна дапамагала. У хаце было заўсёды неяк проста, цёпла, утульна і весела.

Алену Канстанцінаўну любілі і знакамітыя пісьменнікі, і простыя людзі, сваякі і землякі. А яна ўмела і любіла іх прыняць, пачаставаць. Міхась Ціханавіч Лынькоў, напрыклад, часта знарок прыходзіў да Алены Канстанцінаўны, каб адведаць яе бліноў і мачанкі...

На заканчэнне — пра апошнюю сустрэчу з Кандратам Кандратавічам. Гэта было 30 снежня 1990 г. Я прыйшла, каб павіншаваць дзядзьку з Новым годам, пабыць з ім, пагаварыць. Кандрат Кандратавіч з цяжкасцю выйшаў. Выглядаў блага. Адразу кінулася ў вочы, што яму надта цяжка, на твары — *адбітак фізічных і духоўных* мук. Калі я запыталася пра яго здароўе, ён упершыню паскардзіўся на дрэннае самаадчуванне, сказаў, што пара ўжо яму ў свет другі. Я старалася супакоіць яго, сказала, што яшчэ рана думаць пра смерць, што трэба як след адсвяткаваць 95-годдзе, а там не за гарамі і 100 гадоў. Ён перавёў размову, папытаўся, як я сябе адчуваю, ці паставіла помнік сыну. Мне таксама было вельмі цяжка на душы, яшчэ была свежая рана з прычыны смерці сына, мне хацелася плакаць, прыхіліўшыся да яго апалых грудзей. І ён разумеў мяне, зноў пытаўся пра Нізок, пра калгас і школу, пра маіх сясцёр...

5 студзеня 1991 года пазваніла Зоя Мікалаеўна (дзядзькава нявестка) і паведаміла, што Кандрат Кандратавіч у цяжкім стане. 7 студзеня яго не стала.

*Ён памёр, але і жыве.* Бяссмерце, неўміручасць Кандрата Кандратавіча Крапівы — у яго кнігах, у іншых справах, здзейсненых на зямлі дзеля шчасця людзей.

**Людміла СПІРЫДОВІЧ**
*г. Мінск*

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Чулі, праўда ці правакацыя, Сталін, кажуць, у рэанімацыі. Класіка наўрад ці ўдасца ажывіць, але спадкаемцы могуць ажывіцца, і сталінізм будзе жыць — як метад і стыль кіраўніцтва. У перайма́льнікаў асноўныя пастулаты — народ стаміўся ад бяздзейнасці ўладаў, кадры трэба трымаць у холадзе, час ад часу мяняць, галоўнае ўсё ж апарат — апірышча ў барацьбе з ворагам. Для дыктатараў пагляд натуральны, вывераны, без пралікаў, нават у маленькіх Сталіных сталінізм можа быць вялікі.

●

Нічога фантасмагарычнага навокал? Што ты, а гэтыя гмахі-соты, а тараканы — суродзічы бегемотаў, а жабракі і музыкі ў пераходах, а занядбанай зямлі прыкметы? Апыніся між нас заўтра Босх, яму хапіла б сюжэтаў. Але ці здабыў бы гаротны пэндзалі і палотны?

●

У адміністрацыю пазванілі з рэгіёна: вывелі белую варону. На селектары ўтаропіліся ашалела: мо шчэ бел-чырвона-белую? Мелі нашу ўстаноўку наконт змены афарбоўкі, дык працуйце натхнёна над новаю воронаю. Уяўляеце, як гэта надзённа — чырвона-зялёная варона, чароды чырвона-зялёных над бел-чырвона-белаю зонаю!

●

Паводле Леха Канапінскага. Адказны аматар прамоў — скажа, а тады думае. Яно б усё нічога, каб пастановы прымаў разумныя.


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7500.
Нумар падпісаны 6.3.1996 г.
Заказ 1172/Г

П 123456789101112
М 123456789101112